11 ліпеня 2014 | № 27 (396)

# Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144



Футбол і палітыка
стар. 12







# У кіпцюрах РТР

**Беларусь непазбежна прайграе ў інфармацыйнай вайне. Пакуль улада душыла недзяржаўныя СМІ, яна поўнасцю ачысціла інфармацыйнае поле для СМІ Расіі.**



Сяргей ПУЛЬША

Чэрвеньскае сацапытанне НІСЭПД яўна прадэманстравала залежнасць беларускага грамадства ад расійскай прапаганды. Паводле яго вынікаў, украінскі Майдан і адхіленне ад улады Віктара Януковіча дрэннай справаю лічаць 63,2% апытаных. Далучэнне Крыму да Расіі падтрымліваюць 62,2% рэспандэнтаў. Збройны супраціў у Данецкай і Луганскай абласцях як народны пратэст супраць нелегітымнай улады ўспрымаюць 65,5%. Такія адказы нам транслююць СМІ Расіі, а значыць, дзве трацiны беларусаў знаходзяцца пад уплывам замежных СМІ.

Адначасова былі разбураныя два міфы, якія распаўсюджвалі прыхільнікі «інфармацыйнага грамадства». Міф першы — з-за інтэрнэту сучасныя людзі менш глядзяць тэлебачанне. Апытанка НІСЭПД паказала, што тэлевізія па-ранейшаму адыгрывае вялікую ролю ў фармаванні малюнку сусвету шараговага беларуса. Міф другі — людзі, дзякуючы таму ж інтэрнэту, маюць доступ да шматлікіх крыніцаў інфармацыі і могуць ствараць уласнае ўяўленне пра падзеі. Аказалася, што ствараць уласнае ўяўленне пра падзеі, «уключыць мазгі», людзям лянота. Ім прасцей успрыняць той малюнак падзей, які навязваецца па ТБ.

Кіраўніцтва Беларусі і персанальна Аляксандр Лукашэнка «абстрагаваліся» ад руска-ўкраінскай вайны, падкрэсліваючы нейтралітэт і незалежнасць. У гэтых умовах беларускія тэлеканалы працягвалі «не заўважаць» гэтыя падзеі, ніяк не фармуючы стаўленне да іх насельніцтва. Яны чакалі «адмашкі», афіцыйнай пазіцыі кіраўніка дзяржавы ў гэтым канфлікце альбо хаця б намёку на такую пазіцыю. Лукашэнка ж маўчаў па «ўкраінскай праблематыцы» амаль да канца сакавіка, калі адбылася анексія Крыма. А расійская прапаганда тым часам працягвала «прамываць мазгі» беларусам.

Гэткая «залежнасць» ад расійскіх тэлеканалаў можа нам дорага каштаваць. Бо што было б, калі б гэтая вайна была развязаная не супраць Украіны, а супраць Беларусі?

Партыя БНФ зладзіла дыскусію «Сучасная інфармацыйная вайна: урокі ўкраінскіх падзеяў для Беларусі». Медыяаналітык Паўлюк Быкоўскі, уласны карэспандэнт «Газета.Ru» ў Беларусі Дзяніс Лаўнікевіч і спецыяліст па пытаннях бяспекі, кіраўнік аналітычнага праекту Belarus Security Blog Андрэй Паротнікаў адназначна прыйшлі да высновы: беларуская медыя-мадэль ва ўмовах інфармацыйнай вайны непазбежна прайграе.

Канешне, расійскія тэлеканалы рэтранслюющца беларускімі, і ўлада ў любы момант можа перарваць расійскае вяшчанне. Але ў расійскім эфіры не было «наездаў» на кіраўніка краіны альбо нейкіх перадачаў, небяспечных для яго. Таму ўлады і не пабачылі пагрозы расійскай прапаганды ў Беларусі, лічыць Паўлюк Быкоўскі.

Паводле Андрэя Паротнікава, інфармацыйная вайна пачынаецца з малога. Спачатку ідзе «распальванне варожасці» ў адносінах да «верагоднага праціўніка»: навешванне ярлыкоў, стварэнне негатыўнага вобразу. Потым пачынаецца «навуковападобны» працэс адмаўлення нацыі ў ідэнтычнасці і стварэння «фэйкавых» ідэнтычнасцяў, потым прапаганда ўзмацняецца да «абароны нашых ад нянашых» і оп-ля — вайна. У сёняшнім стане, на думку Паротнікава, беларускія медыі могуць «праспаць» падрыхтоўчы этап, і беларускае насельніцтва апынецца ў кішэні расійскай прапаганды.





**45,2%**
**рэспандэнтаў атрымлівалі інфармацыю пра ўкраінскія падзеі ад родзічаў і знаёмых**

«Калі б Мінск зазнаў бы інфармацыйную атаку ўкраінскага маштабу — вынік быў бы жахлівы. Вядома, улады б пачалі адключаць варожыя «галасы». Магчыма, заблакавалі інтэрнэт. І гэтым бы стварылі спрыяльнае асяроддзе для распаўсюду рознага роду чутак», — лічыць Паротнікаў.

Якога кшталту б гэта былі б чуткі, даў зразумець Быкоўскі. Ён прывёў лічбы апытання «Беларускай аналітычнай майстэрні». «20,8% рэспандэнтаў заявілі, што інфармацыю пра ўкраінскія падзеі яны атрымлівалі з сацыяльных сетак, а 45,2% — ад родзічаў і знаёмых. То бок, «сарафаннае радыё» фактычна рэтранслявала расійскія тэлеканалы», — адзначыў ён.

Што можа зрабіць улада, каб супрацьстаяць магчымай інфармацыйнай навале? На думку Паротнікава — нічога. Ва ўладзе няма спецыялістаў, якія б маглі нешта зрабіць. Пацверджанне гэтаму, што грошы, выдаткаваныя на беларускую ідэалогію, застаюцца незасвоенымі.

Як ні дзіўна, але, на думку Паротнікава, пытанне інфармацыйнай бяспекі беларускай дзяржавы наўпрост звязанае з пытаннем свабоды прэсы. Для супрацьстаяння ў «новай вайне» краіна павінна ствараць уласны грамадска-палітычны інфармацыйны кантэнт. «Добра, калі ў нас ёсць тузін такіх выданняў, а ўсе астатнія займаюца перадрукоўкамі», — скрушана адзначыў Паротнікаў.

Менавіта супраць уласнага грамадска-палітычнага кантэнту ўлада змагалася ўвесь час свайго існавання: ад закрыцця незалежных радыёстанцый у 1996 годзе да палявання на журналістаў «Белсату» сёння.

Сярод прапановаў Паротнікава — заяўны прынцып рэгістрацыі СМІ, найперш рэгіянальных, вывад на нацыянальны ўзровень мясцовых тэлеканалаў, дзяржаўных і прыватных, разбаўленне расійскіх СМІ тэлеканаламі Украіны ды Польшчы, і гэтак далей. Карацей — поўная лібералізацыя рынку СМІ. Прыкладна тое ж, чаго ўжо колькі гадоў вымагае апальная Беларуская асацыяцыя журналістаў.

Такім чынам, сваёй упартай барацьбой з «нячэснымі» СМІ ўлада паставіла пад пагрозу нацыянальную бяспеку краіны. А раптам заўтра вайна?

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БЯЛЫНІЧЫ. АЧС няма, а свінні дохнуць



**Улады і ветэрынарныя спецыялісты Бялыніцкага раёна па-ранейшаму працягваюць сцвярджаць, што віруса афрыканскай чумы свінняў у Бялыніцкім раёне не выяўлена.**

Між тым у асабістых гаспадарках насельніцтва раёна з «невядомых» прычын працягваюць гінуць свінні, выпадкі падзяжу жывёлы маюць месца ўжо ў тых населеных пунктах, дзе яны не фіксаваліся раней.

Так, на мінулым тыдні ў вёсцы Прыхабы ў адной з мясцовых гаспадынь ад невядомай хваробы загінулі дзве дарослыя свінні. Пасля гэтага да жанчыны завіталі ветэрынарныя спецыялісты, якія забілі і закапалі ўсё пагалоўе свінняў, што былі ў асабістай падсобнай гаспадарцы (больш за дзясятак), таксама была праведзена комплексная дэзінфекцыя ўсіх жывёлагадоўчых памяшканняў.

Згодна з неафіцыйнай інфармацыяй, атрыманай у прыватным парадку ад аднаго з ветэрынарных спецыялістаў, пасля лабараторных даследаванняў быццам бы быў пацверджаны дыягназ АЧС.

Афіцыйна ж ветэрынарныя спецыялісты Бялыніцкай райветстанцыі працягваюць сцвярджаць, што выпадкаў афрыканскай чумы свінняў у Бялыніцкім раёне не зафіксавана.

Абсалютная большасць жыхароў Бялыніцкага раёна ўпэўнены, што мясцовыя ўлады спецыяльна прыхоўваюць выпадкі захворванняў жывёлаў афрыканскай чумой свінняў, каб інфармацыя не набыла шырокі розгалас у краіне. Тым больш, што самі ветэрынарныя спецыялісты ў прыватным парадку настойліва раяць пазбаўляцца ад свінняў, пакуль яны не загінулі, бо ёсць вялікая рызыка захворвання жывёлаў на АЧС. Нягледзячы на спякотнае надвор'е, з-за адсутнасці дакладнай інфармацыі, вяскоўцы працягваюць прыразаць свінняў, каб не страціць іх наогул.

Грамадскія актывісты Бялыніцкага раёна лічаць, што ўлады ў любым выпадку будуць спрабаваць прыхоўваць інфармацыю аб выпадках захворванняў свінняў на АЧС, бо існуе афіцыйная ўстаноўка, што гэта хвароба ў нашай краіне ўжо пераадолена.

### БРЭСТ. Пакараць за замах на помнік



**Грамадскі актывіст Дзяніс Турчаняк накіраваў у Генеральную пракуратуру Беларусі заяву, дзе выказана просьба прыцягнуць да адказнасці прадстаўнікоў мясцовай улады і супрацоўнікаў гарадскога ЖРЭУ, якія збіраліся руйнаваць жылы дом №10 па вуліцы Астроўскага ў Брэсце.**

Падставай для звароту з'явіўся ліст, падпісаны старшынёй Брэсцкага гарвыканкама Аляксандрам Палышэнкавым яшчэ ў 2006 годзе. У гэтым лісце, накіраваным да абласных уладаў, утрымлівалася просьба прыняць рашэнне аб дазволе зносу згаданага дома па вуліцы Астроўскага. У выніку просьба была задаволеная, нягледзячы на тое, што Міністэрства культуры ад 2003 года прызнае гэты дом за гісторыка-культурную каштоўнасць.

Такім чынам, лічыць Турчаняк, згодна з законам «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны», дом падлягаў абароне ў выглядзе забароны здзяйснення любых дзеянняў, якія прыводзілі б да знішчэння, знікнення і навукова неабгрунтаваных зменаў.

Хаця будынак на вуліцы Астроўскага пакуль не знесены, грамадскі актывіст мяркуе, што ёсць падставы да пакарання вінаватых, бо айчыннае заканадаўства прадугледжвае адказнасць не толькі за ўчыненыя злачынствы, але і за замах на злачынства.

У сваёй заяве ў Генеральную пракуратуру жыхар Брэста просіць правесці праверку на прадмет здзяйснення службовымі асобамі замаху на злачынства, што прадугледжана артыкуламі 344 Крымінальнага кодэксу РБ і было выказана падчас падрыхтоўкі да зносу гісторыка-культурнай каштоўнасці.

Варта нагадаць, што раней жыхары дома №10 па вуліцы Астроўскага ўжо звярталіся ў мясцовую пракуратуру, абвінавачыўшы адказных асобаў гарадскога ЖРЭУ і Брэсцкага гарвыканкама ў крадзяжы, злоўжываннях службовымі паўнамоцтвамі і бяздзейнасці. Аўтары звароту былі ўпэўненыя, што сваёй бяздзейнасцю названыя структуры нанеслі ім сур'ёзную матэрыяльную шкоду, бо жыхары дома ў свой час заключылі дамову і аплачвалі паслугі, каб будынак рамантаваўся і знаходзіўся ў належным стане. Аднак чыноўнікі цягнулі з рамонтам, а пасля прызналі дом аварыйна небяспечным. На думку грамадзян, гарвыканкам не выканаў свае абавязкі ў справе захавання камунальнай і прыватнай уласнасці, а таксама гісторыка-культурнай каштоўнасці, бо дом па вуліцы Астроўскага размешчаны ў цэнтры Брэста горада і знаходзіцца пад аховай дзяржавы. Але тады ў пракуратуры не знайшлі падставаў да прыцягнення вінаватых да адказнасці.

**spring96.org**

# Ціск на праваабаронцаў

Марат ГАРАВЫ

**8 ліпеня праваабаронцу Тамару Сяргей у чарговы раз выклікалі ў Генеральную пракуратуру да намесніка начальніка аддзелу за выконваннем правоў і свабодаў грамадзян Паўла Елісеева.**

Ён пацікавіўся, ці зарэгістравалася Грамадзянская ініцыятыва супраць беззаконня ў судах і пракуратуры, а таксама тым, у якія дзяржаўныя структуры апошнім часам звярталіся сябры ініцыятывы. Затым Павел Елісееў нагадаў, што 23 красавіка мінулага года Генпракуратуратура вынесла Тамары Сяргей афіцыйнае папярэджанне аб крымінальнай адказнасці згодна артыкулу 193-1 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь за арганізацыю дзейнасці незарэгістраванага грамадскага аб'яднання.

Праваабаронца перадала Паўлу Елісееву свае пісьмовыя тлумачэнні і адмовілася падпісваць пратакол размовы. У сваіх пісьмовых тлумачэннях Тамара Сяргей, між іншым, звярнула ўвагу на тое, што права звяртацца да чыноўніцтва, у тым ліку калектыўна, забяспечана Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

Праваабаронца нагадала, што згодна артыкулу 58 асноўнага закону краіны, ніхто не можа быць прымушаны да выканання абавязкаў, якія не прадугледжаны Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і яе законамі, ці да адмаўлення ад сваіх правоў.

Жанчына падкрэсліла, што, згодна артыкулу 59 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, дзяржава абавязана прымаць усе даступныя ёй меры дзеля стварэння ўнутранага і міжнароднага парадку, неабходнага для поўнага ажыццяўлення правоў і свабодаў грамадзян Рэспублікі Беларусь, прадугледжаных асноўным законам краіны; дзяржаўныя органы і чыноўніцтва абавязаны прымаць неабходныя меры для ажыццяўлення і абароны правоў і свабодаў асобы, а таксама нясуць адказнасць за дзеянні, якія парушаюць гэтыя правы і свабоды.

Тамара Сяргей лічыць чарговы выклік у Генпракуратуру актам запужвання, які павінен прымусіць яе адмовіцца ад сваіх канстытуцыйных правоў і свабодаў. Такім чынам, Генпракуратура, якая павінна забяспечваць выкананне заканадаўства, выкарыстоўваецца дзяржавай для запалохвання грамадзян, зазначыла Тамара Сяргей.

# Барацьба з зарплатай «у канвертах»

**Падрыхтаваны праект указа кіраўніка Беларусі па барацьбе з зарплатай «у канвертах».**



«МПЗ сумесна з Мінпрацы, Мінэканомікі, Мінфінам быў падрыхтаваны і 31 снежня 2013 года ва ўстаноўленым парадку ўнесены на разгляд у Савет міністраў праект указа «Аб асобных мерах па прадухіленні выплаты (выдачы ў натуральнай форме) даходаў без адлюстравання ва ўліку», — паведаміў міністр па падатках і зборах Уладзімір Палуян 9 ліпеня падчас анлайн-канферэнцыі на сайце інфармагенцтва БелТА.

«Прыняцце заканадаўчага акта кіраўніком дзяржавы выведзе барацьбу з выплатай заработнай платы «ў канвертах» на дзяржаўны ўзровень, дазволіць далучыцца да барацьбы падатковых органаў з гэтай негатыўнай з'явай у эканоміцы таксама супрацоўнікам праваахоўных, кантрольных органаў», — падкрэсліў міністр.

«У цэлым праект указа скіраваны на спыненне і прафілактыку правапарушэнняў у эканоміцы і ва ўмовах лібералізацыі заклікаваны забяспечыць функцыянаванне легальных форм бізнэсу і стварэнне роўных умоў прадпрымальніцкай дзейнасці, садзейнічаць развіццю добрасумленнай канкурэнцыі, устойліваму сацыяльна-эканамічнаму развіццю рэспублікі, што адпавядае патрабаванням дырэктывы № 4 «Аб развіцці прадпрымальніцкай ініцыятывы і стымуляванні дзелавой актыўнасці ў Рэспубліцы Беларусь», — заявіў кіраўнік падатковага ведамства.

На думку Палуяна, «добрасумленны суб'ект гаспадарання, які плаціць падаткі, адлюстроўваючы ва ўліку рэальную заработную плату сваім работнікам, павінен быць зацікаўлены ў прыняцці такога ўказа».

**БелаПАН**

# 20 гадоў сапсаванага свята

Аксана КОЛБ

**10 ліпеня 1994 года малавядомы дэпутат Аляксандр Лукашэнка ў другім туры перамог прэм'ера Вячаслава Кебіча. Гэта былі першыя і пакуль апошнія свабодныя дэмакратычныя прэзідэнцкія выбары ў Беларусі.**

Пра тое, што Лукашэнка перамагае, я даведалася амаль уначы, развітаўшыся з гасцямі і ўключыўшы тэлевізар. 10 ліпеня 1994 года мне споўнілася 26 гадоў. І вось 20 гадоў запар гэты дзень для мяне — сапсаванае свята. Не глабальна, канешне, але ўсё ж.

Я не галасавала ў другім туры, у першым аддала свой голас за Пазьняка і толькі таму, што лепшага ў спісе не было. Лепшым мог быць Генадзь Карпенка, але дзякуючы намаганням дэмакратычных дэпутатаў, якія адклікалі свае подпісы за Карпенку, яго ў спісе не было...

Ці мог Генадзь Дзмітрыевіч стаць першым прэзідэнтам незалежнай Беларусі? Безумоўна, мог. На той час ён быў такой жа «темной лошадкой», як і Лукашэнка. А яшчэ ў яго была харызма, каманда, падтрымка бізнэсу і сапраўды пазітыўны вопыт працы ў Маладзечне.

Карпенка ўзначаліў Маладзечанскі гарвыканкам у 1992 годзе і за два гады зладзіў у горадзе эканамічныя рэформы, запачаткаваў музычны і тэатральны фестывалі, стварыў футбольны клуб, карэнным чынам дэсаветызаваў гарадскую тапанімію.

Упэўнена, шмат хто аддаў бы перавагу менавіта Карпенку (ні Кебічу, ні Шушкевічу, ні Пазьняку, пра іншых нават не кажу) у першым туры выбараў. І тады 10 ліпеня 1994 года за ганаровае пра стаць першым прэзідэнтам незалежнай Беларусі змагаліся б доктар навук, кіраўнік аднаго з буйнейшых гарадоў Мінскай вобласці Генадзь Карпенка і палітрук, старшыня саўгасу Аляксандр Лукашэнка. Аднак...

Гісторыя, як кажуць, не ведае ўмоўнага ладу. Генадзя Карпенкі няма з намі ўжо 15 гадоў. А Аляксандр Лукашэнка кіруе краінай 20 гадоў. І не вядома, колькі яшчэ будзе кіраваць. А значыць, яшчэ колькі год маё свята, мой дзень народзінаў будзе сапсаваны. Аж да таго часу, пакуль у незалежнай Беларусі не адбудуцца другія свабодныя дэмакратычныя выбары прэзідэнта.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Куды падзеўся мільярд?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Ужо больш за два месяцы, як Пуцін паабяцаў Лукашэнку танны і хуткі крэдыт у два мільярды долараў. За словы трэба адказваць. Беларусь жа без гэтых грошай загібаецца! Пакуль мы «перахапілі» крыху гатоўкі ў ВТБ, але што будзе далей?**



Брыдж-крэдыт ВТБ беларускай эканоміцы не дапамог. Пералічаныя ў канцы чэрвеня 2 мільярды долараў не сталі выратаваннем для эканомікі «сінявокай» і змаглі толькі на 1 мільярд павялічыць хутка таючыя рэзервы Нацбанка Беларусі. Паводле Нацыянальнага статыстычнага камітэта краіны, золатавалютныя рэзервы Нацбанка ў чэрвені 2014 года выраслі ўсяго толькі на 1,0333 мільярда долараў, і на 1 ліпеня гэтага года склалі 6,426 мільярда долараў. То бок, нягледзячы на гэты крэдыт, уладам не ўдалося выйсці нават на ўзровень 1 студзеня 2014 года — з пачатку года зніжэнне ЗВР склала 224,9 мільёна долараў.

Зрэшты, ніякай загадкі ў тым, як, атрымаўшы 2 мільярды «зялёных», улады змаглі павялічыць ЗВР толькі на 1 мільярд, няма. Хутчэй за ўсё, як і меркавалася, Беларусь рэальна атрымала не 2 мільярды, а 1,56 мільярда долараў, пагасіўшы тым самым прадстаўлены яшчэ ў канцы снежня брыдж-крэдыт таго ж самага банка ВТБ на суму 440 мільёнаў долараў. Яшчэ каля 170 мільёнаў долараў сышло на бягучае абслугоўванне крэдыту МВФ. Іншыя абавязацельствы па абслугоўванні знешняга дзярждоўгу, попыт на валюту з боку насельніцтва і прадпрыемстваў (дадзеныя за чэрвень яшчэ не апублікаваныя) — і мільярда як не было.

Калі гэтыя здагадкі пацвердзяцца афіцыйнай статыстыкай, то гэта растлумачыць настойлівае жаданне ўладаў любой цаной, за кошт увядзення ліцэнзавання, спецімпарцёраў і іншых забаронаў, абмежаваць імпарт у краіну. За імпарт мы плацім валютай, а «вымыванне» гэтай валюты за мяжу можа прывесці да паўтарэння 2011 года.

Аднак, акрамя імпарту ёсць яшчэ які-ніякі адпачынкавы сезон. У Крым нашы грамадзяне ехаць ужо не пажадалі, а альтэрнатывай у іх засталіся «цвёрдавалютныя» Грэцыі, Кіпры, Балгарыі ды Турцыі. Ну, а хто за мяжу не паедзе, той патраціць грошы на буйныя пакупкі. І вось гэтых пакупак імпарту ўлада імкнецца пазбегнуць.

Між тым, старшыня нашага Нацбанку Надзея Ермакова — жалезная жанчына. Яна спадзяецца, што да канца года сітуацыя ў эканоміцы краіны палепшыцца. Што тычыцца імклівага таяння брыдж-крэдыту ВТБ адразу ў два разы, то яна заявіла: «Абавязкі трэба выконваць, і мы гэта робім у дакладнай адпаведнасці з графікам плацяжоў, усё ідзе капейчына ў капейчыну». То бок, ускосна пацвердзіла, што гэты «зніклы» мільярд у значнай частцы сышоў на сплату знешніх пазыкаў.

«Усё пралічана, негатыўнай сітуацыі не будзе, гэтых грошай нам цалкам дастаткова, каб разлічыцца з абавязкамі. Ёсць даўгі, якія мы можам рэфінансаваць, і мы іх рэфінансуем, а ў прынцыпе я спадзяюся, што сітуацыя ў нас палепшыцца, і будзе нават лепш, чым цяпер», — сказала Ермакова. «Нацбанк і Мінфін маюць план і выразную стратэгію дзеянняў. Да канца года вы ўбачыце гэта», — сказала яна.

Яе б словы ды Богу ў вушы. Праўда, кажучы яе словамі, грошай нам хопіць, каб аддаць пазыкі, а самім нічога не застанецца — ну хай бы і так. Але не пакідае ўражанне, што беларуская фінансавая сістэма падобная на «фінансавую піраміду» — мы пазычаем грошы ў адных, каб расплаціцца з іншымі. А ўсе такія «піраміды» вельмі кепска заканчваюцца...

Тым часам, Нацбанк не адмаўляецца і ад стратэгіі плаўнай дэвальвацыі рубля. Па словах Ермаковай, да канца 2014 года курс долара можа скласці 10,7 — 10,8 тысяч беларускіх рублёў за долар.

Фінансавыя дзіркі, як заўсёды, затыкаюцца за кошт насельніцтва. Здавалася б, у нас стабільная сітуацыя на нафтавым рынку. Больш за тое, Расія пагадзілася пастаўляць нам нафту ў тых аб'ёмах, як мы патрабуем, і часткова скасаваць нафтавыя мытныя пошліны. Аднак на гэтым тыдні зноў падаражэў бензін. Аб падаражанні паліва з 8 ліпеня ў сярэднім на 5%, гэта значыць практычна на 500 рублёў за літр, абвясціў канцэрн «Белнафтахім», манапаліст у Беларусі ў фарміраванні адпускных цэн на нафтапрадукты

Паводле новых тарыфах літр бензіну АІ-92 цяпер каштуе 9 300 рублёў, АІ-95 — 10 000, самае таннае дызпаліва — 10 100. У «Белнафтахіме» рост коштаў тлумачаць падзеннем курсу беларускага рубля ў адносінах да замежных валют, а таксама неабходнасцю «паэтапнага збліжэння коштаў на паліва ў Беларусі і Расіі».

Ну вось чаму нам усе перашкаджаюць? Раней павышэнне коштаў на паліва абгрунтоўвалі тым, што яго вывозяць у Польшчу, Літву, Украіну... Зараз — нам ужо і Расія падгаджвае. Можа быць, гэта не ў іх, а ў нас нешта не тое?

Эканамісты кажуць, што гэта не апошняе павышэнне кошту бензіну. «Галоўная прычына — гэта недахоп грошай у бюджэце, і гэты недахоп улады імкнуцца перакрыць любым чынам, не толькі за кошт крэдытаў, прыватызацыі, якая пакуль ідзе абыяк, але і за кошт насельніцтва», — кажа эканаміст Леў Марголін. Прычым, падаражанне паліва — заўсёды новы віток інфляцыі, паколькі ў канчатковы кошт любых паслуг і прадукцыі закладзены кошт транспарціроўкі, а значыць, кошт бензіну. Цэны крыху падымуцца літаральна на ўсё.

Новае павышэнне коштаў можна чакаць ужо ў бліжэйшы час, перад пачаткам уборачнай кампаніі, кажуць эксперты. Так «Белнафтахім» паспрабуе скампенсаваць хаця б частку стратаў, якія айчынныя НПЗ нясуць ад продажу паліва сельскагаспадарчым прадпрыемствам па льготных цэнах.

Тым больш, што Аляксандр Рыгоравіч запатрабаваў прыбраць «хлеб» да грама, папярэдзіўшы, што цяперашняя ўборка ўраджаю будзе праходзіць пад падвышанай увагай з боку кантралюючых органаў. «Майце на ўвазе, што ў гэтым годзе ўборка будзе як ніколі «ваеннай». Хлеб вырас выдатны, і яго трэба прыбраць да грама», — заявіў Лукашэнка ў Бялыніцкім раёне.

Зразумела, калі прыборка прадукцыі нашай гаротнай сельскай гаспадаркі будзе праходзіць «ваенным чынам», то на такую спецаперацыю не будуць шкадаваць ані грошай, ані паліва, ані іншых рэсурсаў. Так што Нацбанку трэба зараз пільна глядзець, каб «ваеннае становішча» ў чарговы раз не з'ела б грошы з рэзерву.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Уладзіслаў Баўмгертнер

**Шматпакутны былы гендырэктар «Уралкалія» хуткім часам можа апынуцца на свабодзе.**

Маскоўскі гарадскі суд 7 ліпеня адмяніў рашэнне аб працягу хатняга арышту Уладзіславу Баўмгертнеру і адправіў справу на новы разгляд у Басманны суд Масквы. 9 ліпеня Басманны суд усё ж такі працягнуў Баўмгертнеру хатні арышт да 14 ліпеня.

Следчы камітэт Расіі хадайнічае, каб Баўмгертнеру працягнулі тэрмін хатняга арышту да кастрычніку гэтага года. Адвакат Баўмгертнера Дзмітрый Шашкоў лічыць, што ў тэрмін хатняга арышту павінна быць уключана і тое, што ён адседзеў у СІЗА КДБ Беларусі. Такім чынам, тэрмін хатняга арышту топ-менеджара заканчваецца 26 жніўня.

Нагадаем, што Баўмгертнер быў арыштаваны ў Мінску ў канцы лета 2013 года. Гэта адбылося прыкладна праз месяц пасля таго, як «Уралкалій» абвясціў аб спыненні экспартных продажаў праз сумеснага з «Беларуськаліем» трэйдара «Беларуская калійная кампанія» (БКК).

У Беларусі яму былі прад'яўленыя абвінавачванні ў злоўжыванні ўладай і службовымі паўнамоцтвамі. Паводле гэтага абвінавачвання Баўмгертнера пагражала 10 гадоў пазбаўлення волі. 22 лістапада Баўмгертнер быў экстрадаваны ў Расію і змешчаны ў адзін з маскоўскіх СІЗА. 10 снежня ён быў змешчаны пад хатні арышт.

## Клаўдыё Гуджэроці



**Пасланец Ватыкана, апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці падчас святкавання 400-годдзя прысутнасці цудатворнага абраза Маці Божай у Будславе вырашыў пайсці па шляху Яна Паўла ІІ. Праўда, Ян Павал казаў «Не бойцеся!» палякам, а Гуджэроці — беларусам.**

Па словах апостальскага нунцыя, «Другое запрашэнне, накіраванае Богам да Марыі, а таксама да беларускага народу — «Не бойся, хай не слабнуць рукі твае». Не бойся, беларускі народ, нават калі цяжка, нават калі трэба плакаць — не бойся!» — заклікаў іерарх.

Арцыбіскуп дадаў: «Страх — тое, што забівае нас: не канкрэтная рэчаіснасць, а страх будучыні», «страх перашкаджае нашым адносінам, перашкаджае нам сустракаць адно аднаго на вуліцах і дома», «страх часта загадвае нам не казаць тое, што мы думаем, не паказваць тое, што адчуваем»,«страх кажа: заставайся на сваім месцы, там, дзе ты цяпер». Згадваючы, што беларускі народ называюць найбольш цярплівым у свеце, іерарх адзначыў: «Цярпенне — вялікая цнота, пры ўмове, што яна не ператвараецца ў недахоп павагі да сябе. Сёння на вас глядзіць Маці Божая і кажа: хай не слабнуць вашыя рукі».

Ці будзе мець выступ Гуджэроці такі ж гістарычны эфект, як словы Яна Паўла ІІ, — пабачым.

## Лявон Вольскі



**Лявон Вольскі і «Крамбамбуля» яшчэ пішуць «антысавецкі» альбом, але некаторыя песні можна будзе пачуць на фестывалі Galapagai ў Літве 1–2 жніўня.**

«Песні новай праграмы ўмоўна «партызанскія» — яны распавядаюць пра барацьбу свабодалюбных людзей з нейкім ворагам, — тлумачыць Вольскі. — У гэтым выпадку мы маем справу з «махровай антысавецчынай», паколькі вораг — гэта савецкая сістэма, ці, як кажуць некаторыя, «савецкая акупацыя», якая пачалася на нашай тэрыторыі ў 20-х гадах мінулага стагоддзя. Але пра гэтыя драматычныя падзеі «Крамбамбуля» спявае з уласцівымі ёй гумарам і іроніяй».

Сам альбом павінен выйсці бліжэй да канца года, так што ўсіх наведвальнікаў Galapagai чакае сапраўдны эксклюзіў.

Акрамя «Крамбамбулі» ад Беларусі ў фестывалі прыме ўдзел гурт «Без білета». Сярод замежных хэдлайнераў «The Baseballs» (Германія), «Superscі» (Швецыя), Mr. Woodnote (Вялікабрытанія). На 4 сцэнах выступяць больш за 40 артыстаў. Глядачам, па завядзённых пасольства Літвы, пры наяўнасці квітка на канцэрты прадастаўляюцца бясплатныя візы.




# Што мы вінныя дзяржаве

Міхаіл ПАСТУХОЎ, Сяргей ПУЛЬША

**Кажучы пра правы і свабоды грамадзянаў, было б несумленна не ўзгадаць, што ў іх існуюць і абавязкі.**

### Толькі шэсць абавязкаў

Пра абавязкі, якія вынікаюць з Канстытуцыі, гаварыць значна прасцей, бо правоў багата, а абавязкаў — усяго шэсць. Гэта: выконваць Канстытуцыю, законы і паважаць нацыянальныя традыцыі; паважаць годнасць, правы, свабоды, законныя інтарэсы іншых асоб; берагчы гісторыка-культурную, духоўную спадчыну і іншыя нацыянальныя каштоўнасці; ахоўваць прыроднае асяроддзе; прымаць удзел у фінансаванні дзяржаўных расходаў шляхам выплаты падаткаў, пошлін і іншых плацяжоў; абараняць Рэспубліку Беларусь.

У артыкуле 58 Канстытуцыі агаворваецца, што ніхто не можа быць прымушаны да выканання абавязкаў, не прадугледжаных Канстытуцыяй і законамі Рэспублікі Беларусь, а роўна прымушаны да адмовы ад сваіх правоў. Гэта азначае, што абавязкі грамадзян — гэта «вымушаныя абцяжарванні», і могуць усталёўвацца толькі на ўзроўні закона і з захаваннем дэмакратычных працэдур.

То бок, абавязкі не могуць усталёўвацца ў прэзідэнцкіх актах (указах, дэкрэтах, дырэктывах), пастановах урада, актах міністэрстваў і ведамстваў, рашэннях мясцовых органаў улады. Акрамя таго, абавязкі не павінны прыводзіць да адмовы ад гарантаваных правоў грамадзян.

### Дык давайце выконваць Канстытуцыю!

Абавязак выконваць Канстытуцыю, законы і паважаць нацыянальныя традыцыі — агульны абавязак усіх грамадзян і іншых асоб, якія знаходзяцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Усіх — значыць, усіх, і прадстаўнікоў дзяржавы таксама. Прычым, на прадстаўнікоў улады ўскладаюцца павышаныя абавязацельствы, зыходзячы з іх службовага становішча. І самая вялікая адказнасць — у прэзідэнта, які з'яўляецца гарантам выканання Канстытуцыі. Вышэйшыя службовыя асобы нясуць адмысловую адказнасць за невыкананне сваіх абавязкаў. Гэтая адказнасць вымяраецца Канстытуцыяй. У ёй прадугледжваецца магчымасць працэдуры адхілення іх ад пасады («імпічменту»), датэрміновай адстаўкі, роспуску прадстаўнічых органаў улады.

Акрамя выканання Канстытуцыі і законаў, кожны абавязаны паважаць нацыянальныя традыцыі. Гэта азначае, што грамадзяне краіны павінны паважліва ставіцца да нацыянальнай гісторыі, культуры, мовы, сімволікі. Ігнараванне нацыянальных традыцый, а тым больш, абыякавае стаўленне да іх, павінна быць падставай для адмовы ў даверы канкрэтным службовым асобам. У некаторых выпадках можа быць пастаўлена пытанне аб прыцягненні іх да крымінальнай адказнасці (напрыклад, у выпадку здзеку з дзяржаўнага сцягу).

### Улады абавязаны

Калі Канстытуцыя гарантуе кожнаму права на годнасць, абарону правоў, свабод і законных інтарэсаў, то, адпаведна, ёсць і абавязак паважаць тое ж самае ў дачыненні да іншых асобаў. Гэты абавязак распаўсюджваецца, у першую чаргу, на прадстаўнікоў улады. Яны павінны дэманстраваць паважлівае стаўленне да грамадзян, «прымаць неабходныя меры для ажыццяўлення і абароны правоў і свабодаў асобы». Больш за тое, на іх ускладаецца адказнасць за дзеянні, якія парушаюць правы і свабоды грамадзян.

У дачыненні да канкрэтных дзеянняў-бяздзейнасці такі абавязак забяспечваецца нормамі заканадаўства (крымінальнага, адміністрацыйнага, працоўнага і інш.) Да прыкладу, у Крымінальным кодэксе ўтрымліваюцца цэлыя раздзелы, якія вызначаюць злачынствы супраць чалавека (у тым ліку супраць жыцця і здароўя), супраць асабістай свабоды, гонару і годнасці, супраць уласнасці і парадку ажыццяўлення эканамічнай дзейнасці, супраць грамадскай бяспекі і здароўя насельніцтва.

Аднак на практыцы амаль не назіраецца выпадкаў, калі прадстаўнікі ўлады і іншыя службовыя асобы, у дзеяннях якіх бачацца прыкметы правапарушэнняў, прыцягваюцца да адказнасці за грэбаванне правамі і свабодамі грамадзян. Асабліва відавочна гэта праяўляецца пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў. У ходзе выбарчай кампаніі нярэдка становяцца вядомымі факты аб парушэнні правоў кандыдатаў, назіральнікаў, прадстаўнікоў СМІ, але ніхто да адказнасці не прыцягваецца.

Асаблівы статус мае першая асоба дзяржавы. Яна зараз, па сутнасці, вызвалена ад усякай адказнасці за свае дзеянні. Між тым, факт занятку пасады звыш устаноўленых тэрмінаў цалкам можна расцаніць як непавагу да правоў, свабод і законных інтарэсаў іншых асоб.

### Нам засталася спадчына

Абавязак берагчы гісторыка-культурную спадчыну і іншыя культурныя каштоўнасці скіраваны на ахову матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей беларускай нацыі, на развіццё культуры ўсіх народаў, якія насяляюць тэрыторыю Рэспублікі Беларусь.

У мэтах рэалізацыі гэтага абавязку яшчэ ў 1992 годзе быў прыняты Закон «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны». Гісторыка-культурныя каштоўнасці ў ім вызначаліся як «найбольш адметныя матэрыяльныя аб'екты і нематэрыяльныя праяўленні чалавечай творчасці, якія маюць выдатныя духоўныя, эстэтычныя і дакументальныя вартасці і ўзятыя пад ахову дзяржавы».

Па сэнсе гэтага закона, бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня», якія пэўны час былі дзяржаўнымі сімваламі Беларусі, павінны лічыцца гісторыка-культурнай каштоўнасцю і знаходзіцца пад абаронай дзяржавы.

У студзені 2006 года закон быў прыняты ў новай рэдакцыі. У адрозненне ад папярэдняга закона, у ім пералічваюцца аб'екты, якія адносяцца да матэрыяльных і нематэрыяльных гісторыка-культурных каштоўнасцяў, у тым ліку: дакументальныя помнікі, помнікі археалогіі, помнікі архітэктуры, помнікі гісторыі, помнікі мастацтва, вусная народная творчасць, мова, яе дыялекты.

Варта звярнуць увагу, што гісторыка-культурнай каштоўнасцю з'яўляецца мова. То бок, яна павінна асабліва ахоўвацца ў дзяржаве, чаго мы не бачым. За знішчэнне або пашкоджанне гісторыка-культурных каштоўнасцяў, а роўна за здзек з іх, прадугледжваецца крымінальная адказнасць.

### Беражы прыроду, маці тваю!

Абавязак ахоўваць прыроднае асяроддзе канкрэтызуецца ў Законе «Аб ахове навакольнага асяроддзя» 1992 года. У адпаведнасці з законам, кожны, хто знаходзіцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, абавязаны: выконваць экалагічнае заканадаўства; берагчы і ахоўваць навакольнае асяроддзе і рацыянальна выкарыстоўваць прыродныя рэсурсы; выконваць патрабаванні ў галіне абыходжання з адходамі, правілы пажарнай бяспекі, палявання і рыбалоўства; выконваць патрабаванні ў сферы барацьбы з бытавым шумам у памяшканнях, на вуліцах, у дварах, месцах адпачынку і іншых месцах; выконваць загады органаў і службовых асоб, якія ажыццяўляюць дзяржаўны кантроль у галіне аховы навакольнага асяроддзя.

Невыкананне або неналежнае выкананне абавязку па ахове прыроднага асяроддзя цягне за сабой грамадзянска-прававую, адміністрацыйную і крымінальную адказнасць.

### Не хавайце грошы

Абавязак прымаць удзел у фінансаванні дзяржаўных выдаткаў шляхам выплаты падаткаў, пошлін і іншых плацяжоў знаходзіць сваё увасабленне ў рэспубліканскіх і мясцовых падатках, зборах (плацяжоў). Пры ўсталяванні падаткаў і збораў (плацяжоў) павінны выконвацца агульнапрызнаныя прынцыпы падаткаабкладання, у тым ліку сацыяльная (грамадская) абгрунтаванасць, усеагульнасць, роўнасць.

Між тым, Падатковы кодэкс спецыяльна агаворвае, што не дапускаецца ўстанаўленне падаткаў, збораў (пошлін) і льгот па іх аплаце, якія наносяць шкоду «... палітычнай і эканамічнай стабільнасці». Акрамя таго, увядзенне новых падаткаў і збораў ажыццяўляецца шляхам прыняцця закона аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс «...або прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь». Але ў любым выпадку новыя падаткі і зборы павінны прымацца пры зацвярджэнні бюджэту на чарговы год і «ўступаць у сілу не раней чым 1 студзеня года, наступнага за годам яго прыняцця».

У сувязі з гэтым узнікае пытанне аб дапушчальнасці ўвядзення з 1 студзеня 2014 года дзяржаўнай пошліны «за допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху». Відавочна, што гэтая пошліна супярэчыць вышэйназваным прынцыпам падаткаабкладання. Акрамя таго, працэдура яго ўвядзення разыходзіцца з парадкам, устаноўленым у артыкуле 11 Падатковага кодэкса.

### Барані сваё

Абавязак абараняць Рэспубліку Беларусь тычыцца кожнага ваеннаабавязанага. У выпадку афіцыйнага абвяшчэння вайны і ўсеагульнай вайсковай мабілізацыі такі грамадзянін павінен прыбыць па выкліку адпаведных ваенных уладаў.

Парадак праходжання ваеннай службы, падставы і ўмовы вызвалення ад яе альбо замены яе альтэрнатыўнай, вызначаюцца законам «Аб вайсковым абавязку і вайсковай службе». Ён вызначае парадак вайсковага абавязку: вайсковы ўлік; абавязковую падрыхтоўку да вайсковай службы; прызыў на вайсковую службу; праходжанне ваеннай службы па прызыве; прызыў на службу ў рэзерве і праходжанне службы ў рэзерве; стан у запасе; прызыў на ваенныя і спецыяльныя зборы і іх праходжанне.

Закон аб альтэрнатыўнай службе, прадугледжаны ў Канстытуцыі, «знаходзіцца ў стане распрацоўкі» ўжо каля 20 гадоў. Ёсць праект закона, але калі будзе ён прыняты, і ці будзе ён прыняты наогул, невядома.

Варта адзначыць, што некаторыя феміністкі незадаволеныя тым, як гэты абавязак у Беларусі рэалізуецца. Канстытуцыя кажа, што абарона краіны — абавязак «грамадзяніна Рэспублікі Беларусь» незалежна ад полавай прыналежнасці. Закон жа аб вайсковым абавязку распаўсюджваецца выключна на мужчынаў.

* * *

Падсумоўваючы, можна сказаць, што канстытуцыйныя абавязкі грамадзян у Беларусі ў значнай меры дапаўняюцца абавязкамі, якія замацоўваюцца ў бягучым заканадаўстве. І не толькі ў законах, але і ў прэзідэнцкіх дэкрэтах і ўказах, актах урада, а таксама ў актах міністэрстваў і ведамстваў. З пазіцыі Канстытуцыі гэта недапушчальна, бо ўяўляе сабой незаконнае абмежаванне правоў і свабод грамадзян.

*Паважаныя чытачы! Свае пытанні па абароне правоў чалавека вы можаце задаць Міхаілу Пастухову, даслаўшы іх у рэдакцыю, альбо ў каментарах пад артыкулам на сайце novychas.info.*

# Ці выжывуць прадпрымальнікі?

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**З прадпрымальніцкім пратэстам не атрымалася. Мінск увогуле не падтрымаў страйкі, а «пратэстныя рэгіёны» ўзнаўляюць працу. Частка прадпрымальнікаў з Віцебску і Баранавічаў 10 ліпеня плануе заплаціць адзіны падатак і выйсці на працу.**

Нагадаем, што ў дзень уступлення ў сілу прэзідэнцкага ўказа №222, які абавязвае ІП мець суправаджальныя дакументы на тавар, вялікая колькасць ІП у Баранавічах, Слоніме, Магілёве, Віцебску, Гомелі, Пінску, Светлагорску, Гродна, Рэчыцы і некаторых іншых гарадах у знак пратэсту спынілі працу. Але есці хочацца кожны дзень. Таму, прыцягнуўшы ўвагу да сваіх патрабаванняў, напісаўшы новыя лісты ў Адміністрацыю прэзідэнта, Саўмін і іншыя інстанцыі, прадпрымальнікі вырашылі не зацягваць забастоўкі.

Тое, што нашы ўлады да прадпрымальнікаў прыслухаюцца — вельмі сумнеўна. У краіне ўжо даўно дадзена заданне вынішчыць прадпрымальнікаў як клас. Зараз, абклаўшы прадпрымальнікаў з усіх бакоў сертыфікатамі Мытнага саюза, дакументамі і накладнымі, улады блізкія да гэтага як ніколі. Але ці ўдасца вынішчыць прадпрымальнікаў? Якія для іх ёсць выйсці і да чаго гэта прывядзе?

Што тычыцца самай простай схемы, то прадпрымальнікі яшчэ пажывуць да наступнага года. Ім дазволілі парадаваць «рэшту» тавараў без суправаджальных дакументаў, адзінае, — аб'ём гэтай «рэшты» павінен быць задэклараваны ў падатковай інспекцыі. Як лічыць віцебская прадпрымальніца, старшыня аргкамітэта па стварэнні прафсаюза «Разам» Ірына Яскевіч, шмат хто з ІПшнікаў будзе завышаць колькасць непрададзенага імі тавару, каб пад іх «падагнаць» новыя пастаўкі. Але наўрад ці гэта працягнецца доўга — рэалізацыя «рэшты» дазволеная да 1 сакавіка 2015 года, дый у падатковай таксама не дэбілы сядзяць, і да такіх прадпрымальніцкіх хітрыкаў яны ўжо звыклі.

У некаторых прадпрымальнікаў ёсць іншы шлях, абумоўлены перафразаванай показкай: «Што беларусу смерць, то рускаму за шчасце». Як паведамілі на прадпрымальніцкім форуме 30 чэрвеня ІПшнікі з Гомеля, ужо цяпер у абласным цэнтры раздаюць запрашэнні паехаць на працу ў расійскія Клінцы Бранскай вобласці. «Ходзяць па рынку грамадзяне РФ і раздаюць візітоўкі — прыязджайце, адкрывайцеся, працуйце — ні дакументаў, ні сертыфікатаў, нічога нам не трэба. Калі ласка, працуйце спакойна, ніхто вас чапаць не будзе», — казалі яны.

Зараз у Клінцах будуецца новы буйны гандлёвы цэнтр. І нават у тых цэнтрах, што ёсць, існуюць вольныя гандлёвыя месцы, з кандыцыянерамі і інтэрнэтам. Кошт арэнды па беларускіх стандартах проста смешны — 250 расійскіх рублёў за квадратны метр, то бок сем з паловай долараў ці пяць еўра. У нас жа — 35 еўра за «квадрат».

Ад Гомеля да Клінцоў — 118 кіламетраў, паўтары гадзіны па трасе на машыне. Дзве гадзіны туды ідзе цягнік. Гэта як з Маладзечна ў Мінск на працу ездзіць, а ў мяне ёсць і такія знаёмыя: і ездзяць яны так не адзін і не два, а больш за 10 гадоў... Карацей, малому бізнэсу ёсць куды іміграваць.

Так што праца ІП у Беларусі — толькі зручнасць для пакупніка, які можа набыць замежныя тавары тут, не выязджаючы кудысьці з краіны. Калі прадпрымальнікаў задушаць, давядзецца ўжо ездзіць.

У тым жа Гомелі ўжо даўно засвоілі рынкі Бранскай і Чарнігаўскай абласцей. У Чарнігаў людзі ездзілі, нават нягледзячы на «майданаўскія жахі». Магілёў і Віцебск звыкла «затарвоюцца» ў Смаленску. Праўда, дзіўна, што віцябляне яшчэ не адкрылі для сябе Латвію, дзе і еўра ні на якія грошы мяняць не трэба, і дамова пра малы памежны рух ратыфікаваная. Брэст і Гродна сядзяць на Літве і Польшчы. У Вільню звыкла ездзіць і Мінск, у якім больш грошай і які можа дазволіць сабе выдаткі на візы і дарогу. Карацей, мы жывем у свеце «глабальнай вёскі», дзе адлегласць — амаль не праблема.

Вялікая праблема ўзнікне ў дзяржавы: выназ капіталу значна павялічыцца. ІПшнікі, «вашывыя блохі», як маглі, зніжалі гэтую лічбу, спрабуючы набыць тавар танней, оптам і са зніжкай. Калі на замежныя рынкі ламануцца грамадзяне Беларусі ў прыватным парадку, ні пра якія «оптавыя кошты» размова ўжо не пойдзе. Такім чынам, разы прыкладна ў паўтара вываз капіталу павялічыцца.

Канешне ж, улады разлічваюць, што ад недахопу прадпрымальнікаў нашы грамадзяне імгненна кінуцца «купляць беларускае». Будзем шчырымі — пакупнік прызвычаіўся да разнастайнасці і выбару тавараў. Гэты выбар беларуская прамысловасць яму прадставіць не ў стане. А таму пакупнік паедзе туды, дзе выбар ёсць.

Але найбольш цяжка ўявіць, што будзе ў гэтым выпадку з мясцовымі бюджэтамі. Напрыклад, за пяць месяцаў гэтага года ад індывідуальных прадпрымальнікаў Мінска ў бюджэт паступіла больш за паўтрыльёна рублёў.

На ўліку ў падатковых органах Мінска стаіць 71 546 індывідуальных прадпрымальнікаў, якія залічылі ў бюджэт 521,6 мільярда рублёў. Прычым, асноўную долю склалі тыя, з кім дзяржава ўпарта змагаецца: паступленні падатку пры спрошчанай сістэме падаткаабкладання — 226,6 мільярда рублёў. Падатак на дададзены кошт — 169 мільярдаў рублёў, у тым ліку пры ўвозе тавараў на тэрыторыю Беларусі з тэрыторыі Расійскай Федэрацыі — 79,6 мільярда рублёў. Паступленні адзінага падатку з ІПшнікаў і іншых фізічных асоб — 79 мільярдаў рублёў. Сума паступленняў падаходнага падатку з даходаў ад прадпрымальніцкай дзейнасці — 35,4 мільярда рублёў.

Такім чынам, задавіўшы прадпрымальніцтва, толькі ў Мінску бюджэт недалічыцца больш за трыльён рублёў падаткаў за год. У такіх варунках, напэўна, пра трэцюю лінію метрапалітэна ў Мінску прыйдзецца забыцца.



Фота www.belapan.by

Анатоль Шумчанка і прадпрымальнікі сталічнага рынку



Фота www.baj.by

# Калегі ўзгадалі Змітра Завадскага

Генадзь КЕСНЕР

**7 ліпеня ў офісе БАЖ быў накрыты сціплы стол. На стале стаяў партрэт Дзімы Завадскага. Побач сядзелі мама таленавітага тэлежурналіста і жонка. Роўна 14 гадоў таму Дзіма знік. Дагэтуль нічога дакладнага пра ягоны лёс невядома.**

Вельмі не хочацца і не можацца пісаць і казаць пра Дзіму як пра забітага. Не верыцца, што гэтага прыгожага жыццялюба, файнага сына, бацькі і мужа няма ў жывых. Мазгі разумеюць непазбежнасць, сэрца адмаўляецца гэта прыняць.

Перш за ўсё, сэрца маці. Вольга Рыгораўна Завадская шчыра прызналася, што цярпець не можа памінальні. Мама заўжды верыць у цуд. Пакуль ніхто не бачыў памерлага Дзіму, таму нельга сцвярджаць, што ён не жывы. Вольга Рыгораўна распавяла, што першыя гады хадзіла адразу ў некалькі царкваў, так ёй паралі, але паводзіны некаторых «бацюшак» яе вельмі расчаравалі. «Цяпер я жыву з Богам у сэрцы. Надзея памірае апошняй», — кажа матуля Дзімы.

Света Завадская, жонка Дзімы, некалькі гадоў таму каля пад'езда дома, адкуль ён адправіўся ў невядомасць, распавяла, што першыя месяцы пасля знікнення не каханага не знаходзіла сабе месца. Потым у сне да яе прыйшоў муж і сказаў, што яна мусіць наладжваць сваё жыццё. Дзіма адпусціў Свету. І яна сустрэла чалавека, які стаў яе новым мужам — Сяржука Бахуна. Хутка нарадзілася дачка Адэлька, якой ужо чатыры гады. Вольга Рыгораўна ставіцца да маленькай дзяўчынкі як да ўнучкі.

Не хочацца пісаць пра Свету «ўдава Змітра Завадскага». Яна яго жонка. Яна захавала прозвішча мужа. Іхняму сыну Юру ўжо 24 гады. Я помню фільм пра зніклых, у якім аўтар Яўген Агурцоў на адным з пікетаў, прысвечаных скрадзеным палітыкам і журналісту, спытаўся ў тады яшчэ дзесяцігадовага хлапчыкі: «Юра, а ты ведаеш, дзе твой тата?». Ён толькі змог выціснуць з сябе «Не», і заплакаў, прытуліўшыся да мамы.

Помню той самы дзень, калі пайшла інфармацыя, што знік Дзіма. Нешта скаланулася ў душы. Яшчэ вельмі свежыя былі тыя страшныя іншыя знікненні — Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага.

7 ліпеня 2000 года Дзіма сеў у машыну і паехаў у аэрапорт сустракаць свайго сябра журналіста Паўла Шарамета. Павел паведаміў, што на парк-пляцоўцы Нацыянальнага аэрапорта «Мінск» стаіць машына Дзімы, але яго самога няма. Прачакаўшы некалькі гадзінаў, Павел пакінуў на шкле машыны цыдулку: «Дзіма, мы цябе не дачакаліся і паехалі ў Мінск». Пэўна, ніхто і не думаў, што допіс не дойдзе да адрасата.

Так, было следства, былі суды. У гвалтоўным выкраданні Дзімы абвінавацілі афіцэраў спецпадраздзялення «Алмаз» Валерыя Ігнатовіча і Максіма Маліка, якія атрымалі пажыццёвае зняволенне, а таксама курсанта Акадэміі МУС Аляксея Гуза, асуджанага на 25 гадоў пазбаўлення волі. 12 гадоў турмы атрымаў Сяргей Савушкін з трыма судзімасцямі, ён ужо выйшаў на волю.

Але ніхто з назіральнікаў, і ў першую чаргу сваякі, не паверылі ў тое, што суд быў справядлівы, а следства шчырае. Засталіся пытанні: каму было патрэбна і за што выкрадаць Дзіму? Калі яго забілі, то дзе цела? Пытанні, пытанні, пытанні.

Дзіма Завадскі, Вераніка Чаркасава, Алег Бябенін. Гэтыя імёны згадала ў панядзелак старшыня БАЖ Жана Літвіна. Надыдзе час, сказала яна, калі мы даведаемся, што насамрэч здарылася з нашымі калегамі. «Нельга казаць пра помсту, гэта не па-Божаску. Але вельмі хочацца, каб тыя, хто спрычыніўся да знікнення Дзімы, адказалі за гэта», — дадала Света Завадская.

Жыццё для сям'і Завадскіх працягваецца. Без Дзімы. З новымі блізкімі. З новымі чаканнямі. Для Вольгі Рыгораўны яе сын недзе ў невядомасці, але недзе тут. Бо жыццё маці мае сэнс тады, калі застаецца надзея. Глядзячы на Вольгу Завадскую, таксама пачынаеш думаць: а можа, здарыцца цуд, і адной памятнай шыльдай-партрэтам у офісе БАЖ стане меней. Гэта было б самым лепшым, што можа здарыцца. Таму і не лічыце гэты артыкул некралогам.

11 ліпеня 2014 | № 27 (396) Новы Час

# Уладзімір Някляеў:
# Творчасць — практыкаванні ў свабодзе

Працяг. Пачатак у №26



**9 ліпеня — дзень народзінаў Уладзіміра Някляева. Не так даўно ў выдавецтве «Лімарыус» выйшла ягоная аўтабіяграфічная кніга «Знакі прыпынку». Пра кнігу і пра жыццё, пра паэзію і палітыку пагутарыў з Уладзімірам Някляевым журналіст і літаратуразнаўца Сяргей Шапран.**



Уладзімір Някляеў і Рыгор Барадулін

***— «Знакі прыпынку» — проза аўтабіяграфічная. У кнізе шмат запісаў пра паэзію, але яшчэ больш пра паэтаў. Найбольш пра Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Яўгена Еўтушэнку, Леаніда Дранько-Майсюка, Ігара Шклярэўскага... Вы нават напісалі, што любіце паэтаў больш за паэзію. Працытую бадай што найлюбімы мой «значок» з вашай кнігі: «Актрыса Ранеўская тэлефануе раніцой паэтцы Ахматавай і кажа, што ёй сніўся Пушкін.***

***— Зараз жа еду, — адказвае Ахматава.***

***Калі мроіць нейкую супольнасць, трызніць нейкім (паэтавым над побытавым) узроўнем адносін, дык гэтакім».***

***Ці была, Уладзімір Пракопавіч, у вашым паэтычным жыцці гэтая супольнасць, менавіта такі ўзровень адносін?***

— Я запісаў гэты, як ты кажаш, «значок», бо ўсё жыццё марыў пра такую супольнасць, пра такія адносіны. Гэта тое, што называецца цэхавасць. Адчуванне прыналежнасці, еднасці. Яшчэ нядаўна яно было, а ў цяперашнім часе неяк выветрылася. Выпарылася, як спірт з настою ў пластмасавай бутлі, і засталося нешта, ад чаго не хмельна, не весела...

Больш за тое: часцяком — брыдка.

Вось быў я нядаўна ў Маскве і зайшоў на выставу ювелірных вырабаў. Недалёка ад Літаратурнага інстытута, у якім некалі вучыўся. Пярсцёнкі, завушніцы — і раптам брошка: на золаце складзенае з брыльянтаў слова з трох літараў. Самае што ні на ёсць нецэнзурнае. Вытанчана складзенае. З вензелямі. Значыць, кажу я сабе, цэх ювеліраў таксама распаўся. А ён жа быў. І яшчэ які.

Вядома, можна пры жаданні ўявіць «новага рускага», які замовіў гэтую брошку для сваёй «дамы сэрца», і ўявіць майстра, які кажа: «Наце вам! Хочаце гэта? — жарыце! Смакчыце! Мне ўсё адно, за што вы мне заплаціце!» Але гэта ўсё не так, бо мастацтва не можа быць пахабным. Дакладней, не магло б такім быць, калі б цэхавасць не парушылася.

Адчуванне цэхавасці змушала трымаць узровень. Прафесійны, чалавечы. Не дазваляла апускаць планку. Ты не мог дазволіць сабе гэтага, бо гэтага не дазваляў табе твой цэх.

Прыклад з брошкай, нехта скажа, крайнасць. Тады, калі ласка, прыклад іншы, пра які ў «Знаках прыпынку» таксама ёсць «знак».

Аляксандр Кішчанка, мастак, з якім я сябраваў, стварыў неймаверных памераў габелен з выявамі найвыбітных прадстаўнікоў чалавецтва, назваўшы яго «Габелен веку». І ў самым версе габелена побач з выявай Бога размясціў партрэт Лукашэнкі.

***— Вы ж сказалі, што пра Лукашэнку тут і цяпер згадваць не будзеце...***

— Я не пра яго, а пра Кішчанку. Пра сапраўднага мастака. Настолькі сапраўднага, што можна было б меркаваць, што партрэт дыктатара, размешчаны на габелене вышэй за выяву Бога, — гэта выклік. Вытанчаная дэманстрацыя супрацьстаяння мастака і ўлады, творчая знаходка, прыхаваная форма непрыхаванага здзеку. Так можна было б меркаваць, калі б яно было так... Цэх гэткую «творчую знаходку» не прыняў, такому апраўданню не паверыў. А прысуд цэха вышэй за прысуд крытыкі ці публікі. Абскардзіць яго немагчыма.

***— А начныя тэлефанаванні, пра якія ў «Знаках прыпынку» не адзін «значок», — гэта таксама цэхавасць? «Вось ужо колькі гадоў тэлефануе па начах, вярнуўшыся з казіно ў свой адзінотны дом, Ігар Шклярэўскі, і кожны раз, перш чым я паспяваю паслаць яго куды-небудзь, паспявае сказаць: «Калі табе няма каму патэлефанаваць сярод ночы, тады ўвогуле табе няма каму патэлефанаваць».***

***Вам ёсць каму патэлефанаваць сярод ночы, вядома, апроч Шклярэўскага? Ці няма такой патрэбы?***

— І патрэба ёсць, і, дзякуй Богу, ёсць каму патэлефанаваць... І я іншым разам тэлефаную, калі... Ну, калі зусім невыносна...

***— Рыгор Барадулін сказаў, што тэлефанаваў бы Някляеву сярод ночы, але саромеецца.***

— Якраз яму саромецца няма чаго... Рыгору* я рады і ўдзень, і ўночы. Хоць разумею, пра што ён кажа. Калі тэлефануеш некаму ў тры-чатыры гадзіны, дык можаш пачуць у адказ такое... Асабліва ад сяброў ва ўзросце. Гэта ў маладосці схапіў слухаўку: «Ты дзе? Добра, еду!» А цяпер: «Ты да раніцы не мог пачакаць?..» Так што паэзія паэзіяй, а рэальнасць...

***— Вы неяк прызналіся, што ў паэзіі вашай больш таго, чаго хацелася б: менавіта так кахаць, так сябраваць, як у паэмах, вершах, а не так, як у рэчаіснасці.***

> **Творчасць — рэалізацыя фантазій. Кожны вобраз, любая метафара ў момант узнікнення больш рэальная за саму рэальнасць**

— Я казаў гэта ў дачыненні да паэмы «Маланка». Вядома, мне хацелася такога, як у паэме, кахання. «Калі кахаць, дык толькі так кахаць, як бліскавіцу доўжыць бліскавіцай, як з вены ў вену кроў пераліваць...» — напісаў я ў адным з вершаў, замяніўшы пасля слова кахаць на слова пісаць. «Калі пісаць, дык толькі так пісаць, як бліскавіцу доўжыць бліскавіцай, як з вены ў вену кроў пераліваць...»

Бачыш: кахаць і пісаць — адно і тое.

Творчасць — рэалізацыя фантазій. Кожны вобраз, любая метафара ў момант узнікнення больш рэальная за саму рэальнасць. І гэта найпершая матывацыя, праз якую людзі займаюцца творчасцю... (Смяецца.) Асабліва тады, калі не плацяць.

***— Дарэчы, вы напісалі: «Грошы — згуба для таленту, але ў вашага сына такі талент, што грошай у яго ніколі не будзе». Гэта, зразумела, дасціпны жарт, але ў якіх суадносінах талент і грошы? Ці талент і слава?***

— На гэтае знак-пытанне ёсць знак-адказ.

Калі Джэка Лондана спыталі, што б ён выбраў паміж славай і грашыма, ён адказаў: «Калі слава прыйдзе з грашыма, няхай прыходзіць слава».

«Я хачу жыць як бедны чалавек з грашыма», — сказаў Пабла Пікаса.

У юнацтве я быў катэгарычна супраць таго, што адказаў Лондан і сказаў Пікаса.

Пасталеўшы... як бы гэта сказаць... устрымліваўся пры галасаванні.

Цяпер — за.

Нашы ўяўленні пра прыярытэты і каштоўнасці найбольш радыкальна мяняюцца перад страхам сустрэць старасць у галечы.

***— Тады зноў, калі згадалі Лондана і Пікаса, пра цэхавасць. «Ганна Ахматава называла Еўтушэнку і Вазнясенскага не інакш як эстраднікамі. «Гумілеў, — казазала яна, — канешне ж, не сабраў бы такой аўдыторыі. Толькі я не разумею, пры чым тут паэзія?»***

***Пра Ахмудуліну казала: «Я на кабылку гэтую ставіла, а яна не прыйшла».***

Зайздросціла Ганна Андрэеўна. Белай зайздрасцю ці якой там яшчэ, але зайздросціла. Без гэтага між паэтамі нічога астатняга не бывае».

Відаць, не памылюся, калі скажу, што мо самы блізкі для Вас сябар сярод паэтаў — Рыгор Барадулін. Вы зайздросціце яму?

— Яшчэ як... (Праз паўзу.) Вось я чытаю:

*Я адстаю, як адстае гадзіннік.*
*Мне цяжка быць самім сабой, былым.*
*Мой новы страх дрыжыць, як той асіннік.*
*Жарсць сватае маю світанак шэры.*
*Я ўжо цяпер, як беспрытульны дым,*
*Перад якім пазачынялі дзверы.*

Што я думаю, калі чытаю такое? Ах ты, думаю, корч стары!

**— Хто, прабачце?**

— Корч стары... Бо ўва мне было тое ж адчуванне, але яно не выказалася. А ў яго выказалася!..

Што гэта такое? Зайздрасць? Зайздрасць. Таму што ён напісаў, а я — не.

Але што дае такая зайздрасць?.. Эмоцыю.

Вось мы сцвярджаем: тое, што робім у мастацтве, прадукуецца жыццём. Але насамрэч многае ў мастацтве прадукуецца самім мастацтвам.

Кнігу «Руны перуновы» з «Палыновымі санетамі», радкі з якіх я працытаваў, Барадулін даслаў мне ў Хельсінкі, калі я нічога не рабіў. У гэтае самае жыццё глядзеў — і скрозь бачыў пустэчу, бо не пісалася. А тут злавіў эмоцыю — і...

*Яшчэ нічога не было,*
*І ўсё ўжо сталася —*
*Дрыготка,*
*Як па вадзе азяблай лодка,*
*Завеславала, паплыло...*

*Такое ў лодцы той са мной,*
*Што невыносна, немагчыма!..*
*Адна Айчына за плячыма —*
*І анікога за спіной.*

І далей пайшло-паехала... Сувязі з барадулінскім вершам нібы няма, але яна ёсць. Эмацыйная. Гэтак я гатовы зайздросціць штодня.

* Рыгор Барадулін падчас гэтай гутаркі быў яшчэ жывы. Калі яго не стала, я спытаў Уладзіміра Някляева: «Можа, заменім там, дзе пра яго размова, цяперашні час на мінулы, але мой суразмоўца не згадзіўся. Сказаў: «Не, Рыгор Барадулін — у цяперашнім часе».

С.Ш.

Працяг будзе

TV

## 14 ЛІПЕНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь! на «Славянскім базары ў Віцебску-2014».
**07.00, 08.00** (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.30 Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.00** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**10.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**12.10** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**13.15** Музычная камедыя «Вясёлыя рабяты» (СССР).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** «Славянскі базар у Віцебску-2014». Дзённік.
**15.35** Прыгодніцкі баявік «Турэцкі гамбіт» (Расія - Балгарыя). 1-я серыя.
**16.35** Гістарычная меладрама «Дзіўная лёгкасць» (Вялікабрытанія-ЗША).
**19.20** Арэна.
**19.40, 00.10** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.50** «Славянскі базар у Віцебску-2014». Дзённік.
**22.00** Урачыстае закрыццё XXIII Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску-2014». Прамая трансляцыя.
**00.00** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.45** Дзень спорту.

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.00** « Жыць здарова!»
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «Дваранскае гняздо». Мастацкі фільм.
**12.05** «Яны і мы».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «За і супраць».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Смешнае і яшчэ смешней».
**16.50** «Давай пажэнімся!»
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік.».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Анёл або дэман». Тэлесерыял.
**22.05** «Вайна машын. ПА-27».
**22.40** «Пекла». Мастацкі фільм.
**00.35** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.45** «Чыстая работа».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**15.00** «Іншая краіна».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Рэальная кухня».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** Фільм «Апошні байскаўт». ЗША, 1991г.
**22.10** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».
**00.45** «Падкідны». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Цені мінулага» (Расія). Заключная серыя.
**09.55** Тэлебарометр.
**10.30** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў» (Канада).
**11.25** Прэм'ера. Містычны дэтэктыў «Вір чужых жаданняў» (Расія). 1-я серыя.
**12.25** Фільм-казка «Спячая прыгажуня» (Чэхаславакія).
**14.00** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня» Кулінарны майстар-клас (Расія).
**14.30** Меладрама «Розум і пачуцці» (ЗША-Вялікабрытанія).
**17.00** «Зіма пройдзе». Дакументальны фільм (Беларусь).
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Цені мінулага» (Расія). Заключная серыя.
**18.55** Камедыйны серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**19.55** Забаўляльная шоу-праграма «Суперінтуіцыя. Каханне» (Расія).
**20.50** Рэальны свет.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Сітком «СашаТаня» (Расія).
**22.35** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**23.35** Хачу ў тэлевізар!.
**23.40** Містычны дэтэктыў «Вір чужых жаданняў» (Расія). 1-я серыя.
**00.35** «Перазагрузка». Маладзёжнае токшоў.
**01.15** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў» (Канада).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Калейдаскоп».
**07.40** «Сімвалы эпохі». Матрошка.
**07.50** «Хачу ўсё ведаць! Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Размаўляем па-беларуску».
**08.05** Дзіцячыфільм. «Навагоднія прыгоды Машы і Віці».
**09.15** Серыял. «Замах». 5-я серыя.
**10.00** «Партызаны супраць Вермахта». 3-я серыя. Дакументальны фільм.
**10.30** «Святло далёкай зоркі». Памяці кінааператара, рэжысёра, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Юрыя Марухіна.
**10.55** «Размаўляем па-беларуску».
**11.00** Сусветнае кіно. «Тутсі».
**12.50** «Калейдаскоп».
**13.00** «Сімвалы эпохі». Матрошка.
**13.15** «Бачыць нябачнае». 1-я серыя. Дакументальны фільм.
**13.55** «Размаўляем па-беларуску».
**14.00** Серыял. «Мегрэ». 13-я - 18-я серыі.
**18.35** «Калейдаскоп».
**18.45** «Сімвалы эпохі». Матрошка.
**18.55** Мультфільмы.
**19.35** «Размаўляем па-беларуску».
**19.40** Дзіцячы фільм. «Доктар Айбаліт». Паводле казак Карнея Чукоўскага.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** Серыял. «Замах». 6-я серыя.
**22.00** «Партызаны супраць Вермахта». 3-я серыя. Дакументальны фільм.
**22.25** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**23.20** «Святло далёкай зоркі». Памяці кінааператара, рэжысёра, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Юрыя Марухіна.
**23.45** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТВ раніцай».
**08.10** Ратавальнікі.
**08.40** «Да суда».
**09.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара» (працяг).
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.15** «Пракурорская праверка».
**15.15** «Ямо дома».
**15.45** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.35** Серыял «Глушэц. Працяг».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**20.00** «Адысея шпіка Гурава». Мастацкі фільм.
**21.40** Тэлесерыял «Курортная паліцыя».
**23.25** Сёння. Вынікі.
**23.55** Серыял «Глушэц. Працяг».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Размовы эксперта
**07.15** Свабода без гальштукаў!
**07.35** «Тонечка», рэпартаж, 2014 г., Беларусь
**07.55** Чаму дэмакратыя? «За Бога, цара і Айчыну»
**08.50** «Крэпасць», дак. фільм, 2012 г., Чэхія
**10.00** «Архімандрыт», дак. фільм, 2012 г., Польшча
**10.55** «Мой Нікіфар», маст. фільм, 2004 г., Польшча
**17.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**17.25** «Сіроты Тыбету», дак. фільм, 2010 г., Францыя
**18.10** «Крыжовы шлях сям'і Радчанкаў», рэпартаж, 2013 г., Беларусь
**18.25** Моўнік (лінгвістычная праграма): Трасянка
**18.40** Англійская для дзяцей
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі»
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня)
**19.05** Назад у будучыню
**19.15** Размовы эксперта
**19.30** Побач з намі (зборнік рэпартажаў)
**19.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавачая праграма): Францішка Уршуля Радзівіл
**20.00** Навіны
**20.15** Агляд медыяў
**20.25** Агляд падзеяў культуры
**20.35** Дэвайс
**20.40** Размова дня
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне)
**21.25** «Мой Нікіфар», маст. фільм, 2004 г., Польшча
**23.05** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**00.05** Аб'ектыў

## 15 ЛІПЕНЯ, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь! на «Славянскім базары ў Віцебску-2014».
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 01.20** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Ваенны дэтэктыў «Дыверсант. Канец вайны» (Расія). Заключныя серыі.
**11.00** Меладрама «На шляху да сэрца».
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.10** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** «Славянскі базар у Віцебску-2014». Дзённік.
**15.35** Прыгодніцкі баявік «Турэцкі гамбіт» (Расія - Балгарыя). 2-я серыя.
**16.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**17.40** Серыял «Сямейныя меладрамы».
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.45** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «На шляху да сэрца» (Расія). Заключная серыя.
**21.00** Панарама.
**21.50** «Славянскі базар у Віцебску-2014». Дзённік.
**22.00** «Славянскі базар у Віцебску-2014».
**00.15** Вечар цяжкага дня.
**01.00** Сфера інтарэсаў.
**01.35** Дзень спорту.

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жыць здарова!»
**10.25** Кантрольная закупка.
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «Ясмін». Тэлесерыял.
**13.10** «След».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Смешнае і яшчэ смешней».
**16.50** «Давай пажэнімся!»
**18.20** Серыял «Дзяўчыны».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** «Анёл або дэман». Тэлесерыял.
**23.00** «Егер». Мастацкі фільм.
**00.55** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.55** «Дзіўная справа».
**10.00** «Афрамасквіч». Камедыйны серыял.
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** Фільм «Апантанасць». ЗША - Вялікабрытанія, 2002г.
**15.40** «Мае цудоўныя...».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Рэальная кухня».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Смяротная зброя». ЗША, 1987г.
**22.15** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** СТВ прадстаўляе: інтэлект-шоу «Разумней не прыдумаеш».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Падкідны». Серыял. Заключныя серыі.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу» (Расія). 1-я серыя.
**10.05** Беларуская кухня.
**10.40** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў».
**11.35** Містычны дэтэктыў «Вір чужых жаданняў» (Расія). 2-я серыя.
**12.35** Забаўляльная шоу-праграма «Суперінтуіцыя. Каханне» (Расія).
**13.40** Серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**14.45** Сітком «СашаТаня» (Расія).
**15.45** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**16.55** Вышэй за дах.
**17.30** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу» (Расія). 1-я серыя.
**18.55** Серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**19.50** Забаўляльная шоу-праграма «Суперінтуіцыя. Каханне» (Расія).
**20.50** Рэальны свет.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Сітком «СашаТаня» (Расія).
**22.40** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон» (Вялікабрытанія).
**23.40** Хачу ў тэлевізар!.
**23.45** Містычны дэтэктыў «Вір чужых жаданняў» (Расія). 2-я серыя.
**00.40** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Калейдаскоп».
**07.40** «Сімвалы эпохі». Самвыдат.
**07.55, 08.05** «Хачу ўсё ведаць! Навукова-папулярныйвідэачасопіс для дзяцей.
**08.15** «Размаўляем па-беларуску».
**08.20** Дзіцячы фільм. «Доктар Айбаліт». Паводле казак Карнея Чукоўскага.
**09.30** Серыял. «Замах». 6-я серыя.
**10.15** «Партызаны супраць Вермахта». 4-я серыя. Дакументальны фільм.
**10.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці рэжысёра Анатоля Ляляўскага.
**11.10** «Размаўляем па-беларуску».
**11.15** «Сямёра адважных». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я часткі.
**12.45** «Калейдаскоп».
**12.55** «Сімвалы эпохі». Самвыдат.
**13.10** «Бачыць нябачнае». 2-я серыя. Дакументальны фільм.
**13.50** «Размаўляем па-беларуску».
**13.55** Серыял. «Мегрэ». 19-я - 24-я серыі.
**18.15** «Калейдаскоп».
**18.25** «Сімвалыэпохі». Самвыдат.
**18.40** Мультфільм.
**19.35** «Размаўляем па-беларуску».
**19.40** Дзіцячы фільм. «Казакі-разбойнікі».
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** Серыял. «Замах». 7-я серыя.
**22.00** «Партызаны супраць Вермахта». 4-я серыя. Дакументальны фільм.
**22.25** «Гарачыя дзянёчкі». Мастацкі фільм.
**23.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці рэжысёра Анатоля Ляляўскага.
**00.25** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТВ раніцай».
**08.10** Ратавальнікі.
**08.40** «Да суда».
**09.30** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара» (працяг).
**11.50** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.15** Серыял «Пракурорская праверка».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.35** Серыял «Глушэц. Працяг».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**20.00** «Адысея шпіка Гурава». Мастацкі фільм.
**21.45** Тэлесерыял «Курортная паліцыя».
**23.25** Сёння. Вынікі.
**23.50** Серыял «Глушэц. Працяг».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**08.00** Аб'ектыў
**08.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**08.50** Размовы эксперта09:05 Побач з намі (зборнік рэпартажаў)
**09.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавачая праграма): Францішка Уршуля Радзівіл
**09.35** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 6 серыя
**10.20** Назад у будучыню (гістарычная праграма)
**10.30** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял
**11.25** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 6 серыя
**17.00** Басанож па свеце
**17.25** Над Нёмнам (тэлечасопіс)
**17.40** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 6 серыя
**18.30** Моўнік (лінгвістычная праграма): Дзяржаў ці дзяржаваў, мову ці моваў?
**18.40** Англійская для дзяцей
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды Цёўкі»
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня)
**19.05** Назад у будучыню
**19.15** Аўтаспынам па Беларусі
**19.30** «Алесь Сураў – непакорны мастак», рэпартаж
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні: Беларусы ў Грунвальдскай бітве
**20.00** Навіны
**20.15** Агляд медыяў
**20.25** Агляд падзеяў культуры
**20.35** Дэвайс
**20.40** Размова дня
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне)
**21.25** Маю права (юрыдычная праграма)
**21.45** «Легенда Грунвальду», дак. фільм, 2010 г., Польшча
**22.45** «Лонданцы», серыял: 6 серыя
**23.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**00.35** Аб'ектыў

TV

## 16 ЛІПЕНЯ, СЕРАДА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.30** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Прыгодніцкі дэтэктыў «Немец» (Беларусь - Расія). 1-я і 2-я серыі.
**11.00** Меладрама «На шляху да сэрца» (Расія). Заключная серыя.
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.10** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** «Славянскі базар у Віцебску-2014». Дзённік.
**15.35** Прыгодніцкі баявік «Турэцкі гамбіт» (Расія - Балгарыя). 3. Серыя.
**16.40** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**17.40** Серыял «Сямейныя меладрамы».
**19.20** Спецыяльны рэпартаж.
**19.40, 00.10** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Дэтэктыўны серыял «Адвакатэсы» (Расія). 1-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** «Славянскі базар у Віцебску-2014».
**00.00** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.45** Дзень спорту.
**01.00** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** « Жыць здорава!»
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «Ясмін». Тэлесерыял.
**12.05** «Яны і мы».
**13.10** «След»
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Смешнае і яшчэ смешней».
**16.50** «Давай пажэнімся!»
**18.20** Серыял «Дзяўчыны».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** «Анёл або дэман». Тэлесерыял.
**22.50** «Галоўнае - не баяцца». Маст. фільм.
**00.45** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.55** «Глядзець усім!».
**09.05** «Нам і не снілася».
**10.00** «Афрамасквіч». Камедыйны серыял.
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** Фільм «Смяротная зброя». ЗША, 1987г.
**15.45** «Мае цудоўныя...».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Рэальная кухня».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Пасцеля з руж». ЗША, 1996г.
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Сардэчна паскардзіцца».
**00.15** «Правакатар». Серыял.

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу» (Расія). 2-я серыя.
**10.05** Беларуская кухня.
**10.40** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў».
**11.45** Містычны дэтэктыў «Вір чужых жаданняў» (Расія). 3. Серыя.
**12.40** Забаўляльная шоу-праграма «Суперінтуіцыя. Каханне» (Расія).
**13.45** Серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**14.45** Сіткам «СашаТаня» (Расія).
**15.50** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**17.00** Рэпарцёр.
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу» (Расія). 2-я серыя.
**18.55** Серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**19.50** Забаўляльная шоу-праграма «Суперінтуіцыя. Каханне» (Расія).
**20.50** Рэальны свет.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Тэлебарометр.
**21.40** Сіткам «СашаТаня» (Расія).
**22.40** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**23.45** Хачу ў тэлевізар!.
**23.50** Містычны дэтэктыў «Вір чужых жаданняў» (Расія). 3. Серыя.
**00.40** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў».

### 3 Беларусь

**07.30** «Калейдаскоп».
**07.40, 12.50, 18.20** «Сімвалы эпохі». «Трысякеры» - партвейн 777.
**07.55, 08.05** «Хачу ўсё ведаць! Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.15** «Размаўляем па-беларуску».
**08.20** Дзіцячы фільм. «Казакі-разбойнікі».
**09.25** Серыял. «Замах». 7-я серыя.
**10.10** «Партызаны супраць Вермахта». 5-я серыя. Дакументальны фільм.
**10.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці літаратуразнаўцы, педагога, заслужанага дзеяча культуры БССР Ніны Ватацы.
**11.05** «Размаўляем па-беларуску».
**11.15** «Гарачыя дзянёчкі». Мастацкі фільм.
**12.40** «Калейдаскоп».
**13.05** «Чароўная мелодыя для сяброў». Музыка Анатоля Кальварскага.
**14.25** «Размаўляем па-беларуску».
**14.30** «Леанард Бернстайн. Роздум». Дакументальны фільм пра жыццё і творчасць выдатнага амерыканскага кампазітара і піяніста.
**15.25** «Падарожжа Са смакам». Харватыя.
**15.55** «Размаўляем па-беларуску».
**16.00** Серыял. «Пракляты ўтульны дом». 4-я серыя.
**16.50** «Магія слова і гуку». Дак. фільм аб ладзе жыцця народаў рускай Поўначы.
**17.30** «Лёс старой кнігі». Дакументальны фільм пра ўнікальныя кніжныя помнікі - рукапісныя кнігі XVI-XIX стагоддзяў.
**17.45** «1812. Ад Нёмана да Нёмана». Дакументальны фільм пра вайну 1812 г. на тэрыторыі Беларусі.
**18.10** «Калейдаскоп».
**18.35** Мультфільмы.
**19.15** «Размаўляем па-беларуску».
**19.20** Дзіцячы фільм. «Чатыры ноль на карысць Танечкі».
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** Серыял. «Замах». 8-я серыя.
**22.00** «Партызаны супраць Вермахта». 5-я серыя. Дакументальны фільм.
**22.25** «Неба паўсюль аднолькавае». Мастацкі фільм.
**23.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці літаратуразнаўцы, педагога, заслужанага дзеяча культуры БССР Ніны Ватацы.
**00.15** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.25** «Вочная стаўка».
**07.15** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**08.00** «Асабістая выгада».
**08.05** Ратавальнікі.
**08.40** «Да суда».
**09.30** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара» (працяг).
**11.50** «Суд прысяжных».
**13.20** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.15** Серыял «Пракурорская праверка».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.35** Серыял «Глушэц. Працяг».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**20.00** «Адысея шпіка Гурава». Маст. фільм.
**21.45** Тэлесерыял «Курортная паліцыя».
**23.25** Сёння. Вынікі.
**23.50** Серыял «Глушэц. Працяг».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**08.00** Аб'ектыў
**08.25** Маю права (юрыдычная праграма)
**08.45** Аўтаспынам па Беларусі
**09.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Беларусы ў Грунвальдскай бітве
**09.15** Басаножам па свеце (спазнаваўчая праграма)
**09.40** Назад у будучыню.
**09.55** «Дом ля поплаву», тэлесерыял: 6 серыя
**10.40** «Легенда Грунвальду», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**11.35** «Лонданцы», серыял: 6 серыя.
**17.00** Паляванне на дзівосы.
**17.25** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл: Андрэй Кім.
**17.40** «Глыбокая вада», серыял: 13 серыя.
**18.30** Моўнік (лінгвістычная праграма): Так гавораць на Падляшшы.
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню.
**19.15** 54 % (публіцыстычная праграма): Нараджаць у Беларусі – ці лёгкая справа?
**19.40** «Апантаныя-2», дак. цыкл: Хлопцы з граніту.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Барская канфедэрацыя.
**20.00** Навіны.
**20.15** Агляд медыяў.
**20.25** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Дэвайс.
**20.40** Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Людская справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага): Лёс ваенных гарадкоў
**21.55** «Дзень "Ч". Версія» дак. фільм, 2009 г., Беларусь: ч. 1.
**22.30** «Кар'ера Нікодэма Дызмы», серыял: 6 серыя.
**23.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.30** Аб'ектыў.

## 17 ЛІПЕНЯ, ЧАЦВЕР

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 01.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Прыгодніцкі дэтэктыў «Немец» (Беларусь - Расія). 3-я і 4-я серыі.
**10.55** Дэтэктыўны серыял «Адвакатэсы» (Расія). 1-я серыя.
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.10** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Прыгодніцкі баявік «Турэцкі гамбіт» (Расія - Балгарыя). Заключная серыя.
**16.40** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**17.35** Серыял «Сямейныя меладрамы».
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.25** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Дэтэктыўны серыял «Адвакатэсы» (Расія). 2-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** «Славянскі базар у Віцебску-2014».
**00.00** Вечар цяжкага дня.
**00.45** Сфера інтарэсаў.
**01.20** Дзень спорту.
**01.30** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** « Жыць здорава!»
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «Ясмін». Тэлесерыял.
**13.10** «След».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Смешнае і яшчэ смешней».
**16.50** «Давай пажэнімся!»
**18.20** Серыял «Дзяўчыны».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** «Анёл або дэман». Тэлесерыял.
**22.55** «Вялікія грошы». Мастацкі фільм.
**00.45** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.55** «Глядзець усім!».
**09.10** «Нам і не снілася».
**10.00** «Афрамасквіч». Камедыйны серыял.
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** Фільм «Пасцеля з руж». ЗША, 1996г.
**15.45** «Мае цудоўныя...».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Рэальная кухня».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Машына часу». ЗША, 2002г.
**22.05** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Правакатар». Серыял. Закл. серыі.

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу» (Расія). 3 Серыя.
**10.00** Беларуская кухня.
**10.40** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў».
**11.35** Містычны дэтэктыў «Вір чужых жаданняў» (Расія). Заключная серыя.
**12.35** Забаўляльная шоу-праграма «Суперінтуіцыя. Каханне» (Расія).
**13.40** Серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**14.40** Сіткам «СашаТаня» (Расія).
**15.45** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**16.50** Пад грыфам «Вядомыя».
**17.25** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу».
**18.55** Серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**19.55** Забаўляльная шоу-праграма «Суперінтуіцыя. Каханне» (Расія).
**20.55** Рэальны свет.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Сіткам «СашаТаня» (Расія).
**22.40** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**23.50** Містычны дэтэктыў «Вір чужых жаданняў» (Расія). Заключная серыя.
**00.40** Іранічны дэтэктыў «Справа Дойлаў».

### 3 Беларусь

**07.30** «Калейдаскоп».
**07.40, 12.55, 18.00** «Сімвалы эпохі». Міжнародны кінафестывалі.
**07.55** «Хачу ўсё ведаць! Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.05** «Размаўляем па-беларуску».
**08.10** Дзіцячы фільм. «Чатыры ноль на карысць Танечкі».
**09.35** Серыял. «Замах». 8-я серыя.
**10.20** «Партызаны супраць Вермахта». 6-я серыя. Дакументальны фільм.
**10.50** «Святлодалёкай зоркі». Памяці мастака Аляксандра Ісачова.
**11.15** «Размаўляем па-беларуску».
**11.25** «Неба паўсюль аднолькавае». Мастацкі фільм.
**12.45** «Калейдаскоп».
**13.10** «VIII Міжнародны фестываль Юрыя Башмета». Канцэрт Маладзёжнага сімфанічнага аркестра Беларускай акадэміі музыкі. Дырыжор - Алпаслан Эрцюнгеалп.
**14.35** «Размаўляем па-беларуску».
**14.40** «Сцежкай ваўка». Дак. фільм пра складаныя ўзаемаадносіны на працягу вякоў чалавека і ваўка.
**15.20** «Пейзажы скрозь час». Дом Фрэдэрыка Чэрджа ў Алана.
**15.50** «Шостае пачуцце Людзвіга Фадзеева». Дак. фільм пра расійскага матэматыка.
**16.30** Серыял «Пракляты ўтульны дом». 5-я серыя.
**17.15** «Размаўляем па-беларуску».
**17.20** «Персона». Віктар Мярэжка.
**17.50** «Калейдаскоп».
**18.15** Мультфільмы.
**19.15** «Размаўляем па-беларуску».
**19.20** Дзіцячы фільм. «Без ашыйніка».
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** «Сышчык Пуцілін». Маст. фільм. 1 серыя.
**22.05** «Партызаны супраць Вермахта». 6-я серыя. Дакументальны фільм.
**22.35** «Каханнем трэба даражыць». Мастацкі фільм.
**23.55** «Святлодалёкай зоркі». Памяці мастака Аляксандра Ісачова.
**00.25** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТВ раніцай».
**08.10** Ратавальнікі.
**08.40** «Да суда».
**09.30** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара» (працяг).
**11.50** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.15** Серыял «Пракурорская праверка».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.35** Серыял «Глушэц. Працяг».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**20.00** «Адысея шпіка Гурава». Мастацкі фільм.
**21.45** Тэлесерыял «Курортная паліцыя».
**23.25** Сёння. Вынікі.
**23.55** Серыял «Глушэц. Працяг».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**08.00** Аб'ектыў.
**08.25** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага): Лёс ваенных гарадкоў.
**08.55** 54% (публіцыстычная праграма): Нараджаць у Беларусі – ці лёгкая справа?
**09.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Барская канфедэрацыя.
**09.30** Паляванне на дзівосы.
**09.50** Назад у будучыню.
**10.05** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл: Андрэй Кім.
**10.20** «Глыбокая вада», серыял: 13 серыя.
**11.05** «Дзень "Ч". Версія» дак. фільм, 2009 г., Беларусь: ч. 1.
**11.35** «Кар'ера Нікодэма Дызмы», серыял: 6 серыя.
**17.00** Паляванне на дзівосы.
**17.20** «Альпіністка», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**17.35** «Апантаныя-2», дак. цыкл: Хлопцы з граніту.
**17.45** «Глыбокая вада – 2», серыял: 1 серыя
**18.30** Моўнік: Дзе мы купляем?
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды і паходы».
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню.
**19.15** Чорным па белым: Музей Паэта
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні: Першы падзел Рэчы Паспалітай.
**20.00** Навіны.
**20.15** Агляд медыяў.
**20.25** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Дэвайс.
**20.40** Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Два на два (тэледыскусія): Раман Якаўлеўскі і Андрэй Ляховіч.
**21.55** «Дзень "Ч". Версія» дак. фільм, 2009 г., Беларусь: ч. 2.
**22.25** «Левасуддзе», тэлесерыял: 1 серыя.
**23.10** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.10** Аб'ектыў.

# TV

## 18 ЛІПЕНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Прыгодніцкі дэтэктыў «Немец» (Беларусь - Расія). Заключныя серыі.
**10.55** Дэтэктыўны серыял «Адвакатэсы» (Расія). 2-я серыя.
**12.10** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**13.10** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**16.20** Серыял «Сямейныя меладрамы» (Украіна).
**17.15** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**18.10** «Terra incognita». Беларусь невядомая.
**19.20** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.55** Дэтэктыўны серыял «Адвакатэсы» (Расія). 3. Серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Нашы.
**21.55** «Славянскі базар у Віцебску-2014».
**00.30** Дзень спорту.
**00.40** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** « Жыць здорава!»
**10.25** Кантрольная закупка.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Ясмін». Тэлесерыял.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «След»
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Фаіна Ранеўская. Прыгажосць - страшная сіла».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Трын-трава». Мастацкі фільм.
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне. Беларусь».
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Якраз».
**23.50** «Білі Джоэл. Вакно ў Расію».
**01.15** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.55** «Глядзець усім!».
**09.05** «Нам і не снілася».
**10.00** «Афрамасквіч». Камедыйны серыял.
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** Фільм «Машына часу». ЗША, 2002г.
**15.35** «Мае цудоўныя...».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Рэальная кухня».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Агент па мянушцы Спот». ЗША - Аўстралія, 2001г.
**22.05** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ежа багоў».
**00.00** «Вялікая гульня». Покер.
**00.45** Фільм «Салодкае жыццё». Італія - Францыя, 1959г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу» (Расія). 4-я серыя.
**10.00** Беларуская кухня.
**10.35** Мазгавы штурм.
**11.10** «Два з паловай кухары». Кулінарная шоу-праграма (Расія).
**11.40** Спартыўная драма «Фінішная прамая» (Францыя).
**13.30** Забаўляльная шоу-праграма «Суперінтуіцыя. Каханне» (Расія).
**14.30** Камедыйны серыял «Каханне на раёне» (Расія).
**15.35** Сітком «СашаТаня» (Расія).
**16.40** Авантурна-камедыйны серыял «Гатэль» Вавілон «(Вялікабрытанія).
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу» (Расія). 4-я серыя.
**18.55** Моладзевы фільм «Крок наперад 3D» (ЗША).
**20.50** Рэальны свет.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Гумарыстычная шоу-праграма «Comedy Батл». Без межаў «(Расія).
**22.40** Рэпарцёр.
**23.30** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў (Расія). Заключны выпуск.
**00.25** Містычная драма «Улада страху» (ЗША-Канада).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Калейдаскоп».
**07.40** «Дазвольце расказаць». Рыта Ачкіна.
**07.55** «Хачу ўсё ведаць! Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.05** «Размаўляем па-беларуску».
**08.10** Дзіцячы фільм. «Без ашыйніка».
**09.35** «Сышчык Пуцілін». Мастацкі фільм. 1-я серыя.
**10.30** «Партызаны супраць Вермахта». 7-я серыя. Дакументальны фільм.
**10.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці акцёра музычнага тэатра Юрыя Лазоўскага.
**11.25** «Размаўляем па-беларуску».
**11.30** «Каханнем трэба даражыць». Мастацкі фільм.
**12.50** «Калейдаскоп».
**13.00** «Дазвольце расказаць». Рыта Ачкіна.
**13.15** VIII Міжнародны фестываль Юрыя Башмета. Лаўрэаты Міжнароднага конкурса ім. П.І.Чайкоўскага.
**14.55** «Андрэй Грамыка. Гігант, якому ўдалося выжыць». Дакументальны фільм пра жыццё знакамітага ўраджэнца Гомельшчыны, міністра замежных спраў СССР.
**15.50** «Цуды прыроды». Мадэйра. Тайвань. Балі.
**16.20** Серыял. «Пракляты ўтульны дом». 6-я серыя.
**17.05** «Размаўляем па-беларуску».
**17.10** «Камертон». Паэт, празаік, кінасцэнарыст, рэжысёр, акцёр, грамадскідзеяч Яўген Еўтушэнка.
**17.35** «Калейдаскоп».
**17.45** «Дазвольце расказаць». Рыта Ачкіна.
**18.00** Мультфільмы.
**18.25** «Размаўляем па-беларуску».
**18.30** «Жыццё - праклятая роля». Алег Даль. Дакументальны фільм.
**19.15** «Не можа быць! Мастацкі фільм паводле апавяданняў Міхаіла Зошчанкі.
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Калейдаскоп».
**21.15** «Сышчык Пуцілін». Мастацкі фільм. 2-я серыя.
**22.05** «Партызаны супраць Вермахта». 7-я серыя. Дакументальны фільм.
**22.30** Сусветнае кіно. «Бясклапотны ездок».
**00.05** «АРТиШОК». Мастачка Марына Капілава.
**00.30** «Святло далёкай зоркі». Памяці акцёра музычнага тэатра Юрыя Лазоўскага.
**01.00** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТВ раніцай».
**08.10** Ратавальнікі.
**08.40** «Да суда».
**09.30** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара» (працяг).
**11.50** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.15** Серыял «Пракурорская праверка».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.35** Серыял «Глушэц. Працяг».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**20.00** «Адысея шпіка Гурава». Мастацкі фільм.
**23.20** Серыял «Глушэц. Працяг».

### БЕЛСАТ TV

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.00** Аб'ектыў.
**08.25** Два на два (тэледыскусія): Раман Якаўлеўскі і Андрэй Ляховіч.
**08.55** Чорным па белым: Музей Паэта.
**09.25** Гісторыя пад знакам Пагоні: Першы падзел Рэчы Паспалітай.
**09.35** Паляванне на дзівосы.
**10.00** «Альпіністка», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**10.15** Назад у будучыню.
**10.30** «Апантаныя-2», дак. цыкл.
**10.40** «Глыбокая вада – 2», серыял: 1 серыя.
**11.30** «Дзень "Ч". Версія» дак. фільм, 2009 г., Беларусь: ч. 2.
**11.55** «Левасуддзе», тэлесерыял: 1 серыя.
**17.00** Аўтастопам праз Еўропу: Прага.
**17.15** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл: Віктар Жыбуль.
**17.25** «Вацлаў Іваноўскі: «Загляне сонца...», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**17.45** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 7 серыя.
**18.25** Моўнік (лінгвістычная праграма): Адкуль пайшлі найменні гарадоў.
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню.
**19.15** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Кацярына Аверкава.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Пане «Каханку».
**20.00** Навіны.
**20.15** Агляд медыяў.
**20.25** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Дэвайс.
**20.40** Размова дня.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Форум: Нам засталася спадчына...
**22.10** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**22.20** «Дзень вялікай рыбы», маст. фільм, 1996 г., Польшча.
**23.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.30** Аб'ектыў.

## 19 ЛІПЕНЯ, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.20** Існасць.
**07.45** Меладрама «Белая сукенка» (Расія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.45** Камедыйны серыял «Сваты 5» (Украіна).
**10.55** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.30** Дача.
**12.10** Давярай і правярай.
**12.50** «Terra incognita». Беларусь невядомая.
**13.30** Дакументальны цыкл «Выпрабаванне».
**14.10** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.30** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).
**16.40** «Славянскі базар у Віцебску-2014».
**19.00** Меладрама «Дзякуй за каханне» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Меладрама «Вікі Крысціна Барселона» (Іспанія - ЗША).
**23.20** Камедыйны серыял «Сваты 5» (Украіна).
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў.

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** Шоу-гульня «ТБ-таксі».
**12.30** Аляксандр Шырвіндт. Галоўная роля.
**13.20** «Тры таполі на Плюшчысе». Мастацкі фільм.
**15.00** «Імгненні. Таццяна Ліёзнава»
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Чалавек з бульвара Капуцынаў». Мастацкі фільм.
**18.05** «Выспа». Мастацкі фільм.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечары».
**22.45** «Драпежнік». Мастацкі фільм.
**00.45** «Прыгажунчык Джоні». Мастацкі фільм.

### СТВ

**06.30** «Турысты». Серыял.
**08.00** «Анфас».
**08.15** Фільм «Агент па мянушцы Спот». ЗША - Аўстралія, 2001г.
**10.00** «Чыстая работа».
**11.00** «Рэпарцёрская гісторыі».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.40** Фільм «Дванаццатая ноч». СССР, 1955г.
**15.20** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Такі лёс».
**18.35** СТВ прадстаўляе: інтэлект-шоу «Разумней не прыдумаеш».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Дзяўчына, якая гуляла з агнём». Швецыя-Данія-Германія, 2009г.
**22.30** СТВ прадстаўляе: «Зорны рынг»
**23.30** Фільм «Хлапечнік ў Вегасе». ЗША, 2009г.
**01.10** «Глядзець усім!».
**02.00** «Дакументальны спецпраект»: «Сляды багоў».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.20** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**08.35** Фільм-казка «Падмененая каралева» (ГДР).
**09.45** Беларуская кухня.
**10.25** Тэлебарометр.
**10.30** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**12.30** «Два з паловай кухары». Кулінарная шоу-праграма (Расія).
**13.05** Вышэй за дах.
**13.40** Спартыўная драма «Фінішная прамая» (Францыя).
**15.35** Камедыйны баявік «Апошні кінагерой» (ЗША).
**18.00** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў (Расія). Заключны выпуск.
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.05** Забаўляльная шоу-праграма «Суперінтуіцыя. Каханне» (Расія).
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Рэальны свет.
**21.40** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**23.40** Эксцэнтрычная камедыя «Ты з якой планеты?» (ЗША).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Заўтра - гэта мы!
**08.35** «Размаўляем па-беларуску».
**08.40** Серыял. «Мегрэ». 25-я - 30-я серыі.
**13.05** «Калейдаскоп».
**13.15** «Наперад у мінулае».
**13.45** VIII Міжнародны фестываль Юрыя Башмета. Канцэрт да 25-годдзя Камернага аркестра гімназіі-каледжа пад кіраўніцтвам заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Перліна.
**15.05** «АРТиШОК». Мастачка Марына Капілава.
**15.30** «Прыватнае жыццё Пятра Вінаградава». Мастацкі фільм.
**16.50** «Бесценных слов транжир и мот». Уладзімір Маякоўскі. Дакументальны фільм.
**17.15** «Размаўляем па-беларуску».
**17.20** «Тры талеры». Мастацкі фільм па матывах аднайменнай аповесці Андрэя Федарэнкі. 1-я - 4-я серыі.
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Калейдаскоп».
**21.10** Сусветнае кіно. «Каханне, штозбівае з ног».
**22.40** «Калі змоўкла сегідыелля». Дакументальны фільм пра народную артыстку БССР і СССР Ларысу Пампееўну Александроўскую.
**23.35** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.30** Серыял «Вуліцы разбітых ліхтароў».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.50** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Справа цёмная». Гістарычны дэтэктыў.
**14.15** «Следства вялі...».
**15.05** Серыял «Двое з пісталетамі».
**16.00** Сёння.
**16.20** Серыял «Двое з пісталетамі».
**19.35** Самыя гучныя рускія сенсацыі.
**21.25** Ты не паверыш!
**22.10** Мастацкі фільм «Грамадзянка начальніца. Працяг».
**23.50** «Не нарадзіся прыгожым». Мастацкі фільм.

### БЕЛСАТ TV

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.00** Аб'ектыў.
**08.25** Казкі для дзетак: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі», «Прыгоды Цiўкі», «Прыгоды і паходы».
**09.00** «Сонечная дзіда», серыял: 9 серыя.
**09.30** Форум: Нам засталася спадчына.
**10.15** Аўтастопам праз Еўропу: Прага.
**10.35** «Лонданцы», серыял: 6 серыя.
**11.20** 54 % (публіцыстычная праграма): Нараджаць у Беларусі – ці лёгкая справа?
**11.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Пане «Каханку».
**11.55** Казкі для дзетак: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі», «Прыгоды Цiўкі», «Прыгоды і паходы».
**12.30** «Сонечная дзіда», серыял: 9 серыя.
**12.55** «Дом ля поплаву», тэлесерыял: 7 серыя.
**13.45** «Дзень вялікай рыбы», маст. фільм, 1996 г., Польшча.
**14.55** «Грунвальд: 1410–2010. Інсцэнізацыя бітвы».
**16.00** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «У пошуках скарбаў».
**16.50** «Кроў і попел Дражна», рэпартаж, 2008 г., Польшча.
**17.10** Без рэтушы: «Беларуская Амерыка», рэпартаж, 2010 г., Польшча.
**17.30** Чаму дэмакраты? «У пошуках рэвалюцыі».
**18.25** Беларусы ў Польшчы.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Вынаходлівы ўнучок».
**18.55** Аўтаспынам па Беларусі.
**19.10** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**19.20** «Халасцякавічы», дак. фільм, 2010 г., Чэхія.
**20.35** Свабода без гальштукаў!.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Суботні сеанс: «Лэдзі ўдачы», маст. фільм, 2003 г., Польшча.
**23.05** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 7 серыя.
**23.50** «Глыбокая вада», серыял: 13 серыя.
**00.35** МакраФон: «Рок-карона – 2008»: Канцэрт гурта «Ляпіс Трубяцкой».
**01.05** Аб'ектыў.

TV

## 20 ЛІПЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.35** «Тры тапалі на Плюшчысе» (СССР).
**09.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Сваты 5» (Украіна).
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** «Terra incognita». Беларусь невядомая.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.10** Каробка перадач.
**13.50** Дакументальны цыкл «Выпрабаванне».
**14.25** Дыялогі аб цывілізацыі.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**16.40** «Славянскі базар у Віцебску-2014».
**19.00** Меладрама «Белая сукенка» (Расія).
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Меладрама «Другое жыццё жанчыны» (Францыя-Люксембург-Бельгія).
**00.00** Камедыйны серыял «Сваты 5» (Украіна).

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная прапаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фазэнда».
**11.20** Шоу-гульня «ТБ-таксі».
**11.40** Асяроддзе.
**11.45** «Формула кахання». Мастацкі фільм.
**12.40** «Кур'ер». Мастацкі фільм.
**14.15** «Вось гэта каханне». Мастацкі фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Па слядах вялікіх рускіх падарожнікаў».
**17.20** «Сяргей Безрукаў. Поспех не даруюць».
**18.20** «Хвіліна славы».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**23.15** «Паўстанне планеты малпаў». Мастацкі фільм.

### СТВ

**06.00** «Турысты». Серыял.
**07.35** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.55** Фільм «Я так даўно цябе кахаю». Германія - Францыя, 2007г.
**10.00** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Тэрыторыя памылак».
**12.30** «Добры дзень, доктар».
**13.05** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**14.10** Фільм «Адзіная...». СССР, 1975г.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**18.25** СТВ прадстаўляе: вячэрні шоу «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Помста». Данія - Швецыя, 2010г.
**22.50** Шоу «Арганізацыя Пэўных Нацый».
**00.15** Фільм «Мятным кактэйль з лёдам». Іспанія, 1967 г.
**01.50** «Дакументальны спецпраект»: «Зброя багоў».

### Беларусь 2

**07.30** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**08.20** Фільм-казка «Прынц за сям'ю марамі» (ГДР).
**09.50** Мазгавы штурм.
**10.20** Тэлебарометр.
**10.25** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія). Заключныя серыі.
**12.25** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня». Кулінарны майстар-клас (Расія).
**13.05** Забаўляльная шоу-праграма «Суперінтуіцыя. Каханне» (Расія).
**14.05** Гістарычны баявік «Тры каралеўствы. Вяртанне дракона» (Кітай-Паўднёвая Карэя-Ганконг).
**16.00** Моладзевы фільм «Крок наперад 3D» (ЗША).
**18.00** Гумарыстычная шоу-праграма «Comedy Батл». Без межаў «(Расія).
**19.15** Суперлато.
**20.05** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Рэальны свет.
**21.45** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія). Заключныя серыі.
**23.35** Камедыйны баявік «Апошні кінагерой» (ЗША).

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Таямніца душы».
**08.35** «Размаўляем па-беларуску».
**08.40** Серыял. «Мегрэ». 31-я - 36-я серыі.
**13.40** «Калейдаскоп».
**13.50** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**14.45** «Тры талеры». Мастацкі фільм па матывах аднайменнай аповесці Андрэя Федарэнкі. 1-я - 4-я серыі.
**18.10** «Размаўляем па-беларуску».
**18.15** «Аўтограф». Цыркавая студыя «Белая Русь» Мінскага Палаца культуры і спорту чыгуначнікаў.
**18.45** «Культпрасвет».
**19.15** Сусветнае кіно. «Бесклапотны яздок».
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** «Александрына збірае сяброў». Канцэрт «Грай, гармонік».
**22.10** «Культпрасвет».
**22.35** К.Крапіва. «Брама неўміручасці». Тэлеспектакль паводле аднайменнай фантастычнай камедыі. Пастаноўка - У.Міхарскі, В.Раеўскі.
**23.50** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.20** Серыял «Вуліцы разбітых ліхтароў».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Гатуем».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Цуд тэхнікі».
**10.55** «Крамлёўскія жонкі».
**11.50** «Дачны адказ».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Справа цёмная». Гістарычны дэтэктыў.
**14.15** «Следства вялі ...».
**15.00** Серыял «Двое з пісталетамі».
**16.00** Сёння.
**16.20** Серыял «Двое з пісталетамі».
**18.45** Латарэя. Залаты ключ.
**19.00** Сёння.
**19.30** Мастацкі фільм «Брудная праца. Справа журналісткі».
**22.50** «Школа зласлоўя».
**23.35** «Авіятары».

### Белсат TV

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Прыгоды і паходы», «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі», «Вынаходлівы ўнучок».
**07.45** «Таямніца Сагалі», серыял: 13 серыя.
**08.15** Свабода без гальштукаў! (аналітычная праграма).
**08.35** «Кроў і попел Дражна», рэпартаж, 2008 г., Польшча.
**08.55** Без рэтушы: «Беларуская Амерыка», рэпартаж, 2010 г., Польшча.
**09.15** Беларусы ў Польшчы.
**09.35** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.00** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 7 серыя.
**10.45** Чаму дэмакратыя? «У пошуках рэвалюцыі».
**11.40** Аўтаспынам па Беларусі.
**12.00** Моўнік (лінгвістычная праграма): Адкуль пайшлі найменні гарадоў.
**12.10** Казкі для дзетак: «Прыгоды і паходы», «Аповеды таты Бабра», «Вынаходлівы ўнучок».
**12.45** «Таямніца Сагалі», серыял: 13 серыя.
**13.15** «Сага старадаўняй пушчы», дакументальны серыял.
**14.10** «Халасцякавічы», дак. фільм, 2010 г., Чэхія.
**15.20** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 7 серыя.
**16.05** МакраФон: «Minsk-Mixt–2008»: канцэрт гурта «Ветах».
**16.15** «Лэдзі ўдачы», маст. фільм, 2003 г., Польшча.
**18.05** «Кантрабандысты», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**18.35** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Вынаходлівы ўнучок».
**18.55** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**19.10** «Шахматная вайна», дак. фільм, 2002 г., Францыя–Бельгія.
**20.00** «Даволі! Да Волі...», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**21.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.15** Фільматэка майстроў: «Песня-прызнанне Бобі Лонгу», драма, 2004 г., ЗША.
**23.15** Лета з дэтэктывам: «Зграя», сенсацыйны серыял: 7 серыя.
**00.10** «Глыбокая вада–2», серыял: 1 серыя.
**00.55** МакраФон: Рамантычны канцэрт.

---

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афармiўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ________
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ________

Кассир Всего ________

# Ігар Гіркін — наступны прэзідэнт Расіі



Алег НОВІКАЎ

**У расійскім грамадстве ўсё больш папулярная думка пра тое, што лідар данецкіх сепаратыстаў Ігар Гіркін (Стралкоў) павінен кінуць выклік Уладзіміру Пуціну на наступных выбарах прэзідэнта Расійскай Федэрацыі.**

Не так даўно ў Валгаградзе адбыўся кур'ёзны выпадак. Валгаградскія адзінаросы на старце кампаніі ў муніцыпалітэт атрымалі сур'ёзны іміджавы ўдар ад сваіх жа аднапартыйцаў. Мэр горада — сябра «Адзінай Расіі», аказаўся няздольным прадухіліць адключэнне гарачай вады ў большай частцы мільённага горада. Незадаволенасць гараджан неэфектыўнасцю муніцыпальнай каманды адразу стала выкарыстоўвацьапазіцыя. Мясцовыя эксперты для выратавання іміджу партыі прапанавалі тэрмінова прызначыць антыкрызісным кіраўніком у Валгаград аднаго з ваенных камандзіраў Данецкай народнай рэспублікі (ДНР) Ігара Стралкова. «Пры ўсім неадназначным стаўленні да яго, Стралкоў паказаў, як трэба змагацца з марадзёрамі і злодзеямі — ставіць іх да сценкі. Можна спрачацца аб канкрэтных метадах, але сёння менавіта такі жорсткі і рашучы падыход патрэбен у Валгаградзе», — лічыць адзін з палітолагаў у горадзе на Волзе.

Смех смехам, аднак у рунэце з кожным днём усё больш прыхільнікаў Гіркіна. «Зараз у народа з'явіўся з ніадкуль, як гэта часта бывае ў нашай гісторыі, з самых глыбокіх, непрыкметных закуткаў Зямлі Рускай, маленькі чалавечак, які займаўся смешным і несур'ёзным для нашага капіталістычнага грамадства хобі, што адымае час і не прыносіць грошай, які за некалькі месяцаў стаў сімвалам Рускай Вясны, стаў лідарам грамадскай думкі без усялякіх адміністрацыйных рэсурсаў і піяр-кампаній. Яго пасланняў не з рэспектабельнага прэс-цэнтра, а з маргінальнага форуму рэканструктараў мільёны людзей чакаюць затаіўшы дыханне. Яго простыя і ясныя словы ўспрымаюцца як ісціна, без усялякіх сумневаў. Ён стаў раптам і адразу ўсюды, увайшоў у жыццё кожнага рускага, як быццам толькі яго і бракавала для таго каб рускі пазл склаўся. Ён стаў духоўным Лідарам Адраджэння Рускага Народа», — напісаў адзін з фанатаў Гіркіна.

Пры гэтым «гіркінафілы» не абмяжоўваюцца каскадам кампліментаў. Яны ўсё часцей патрабуюць, каб палкоўнік Гіркін выступіў палітычным апанентам палкоўніка Пуціна на наступных выбарах прэзідэнта. Шансы Стралкова выглядаюць някепскімі не толькі з-за таго, што ён прапісаўся на ўсіх расійскіх медыя. Пуцін сам дапусціў тактычную памылку, калі пасля таго, як занадта глыбока ўлез ва ўкраінскі крызіс, не рашыўся падтрымаць нефармальныя рэспублікі. «Пуцінская авантура ва Украіне можа каштаваць яму не толькі развалу Расіі, што можа адбыцца ў выніку эканамічнай блакады, але і прэзідэнцкага крэсла. Сам таго не жадаючы, праз праплачаныя СМІ, ён стварыў праваобраз, ці, хутчэй, патрабаванні, якім павінен адпавядаць прэзідэнт Расіі. Ён павінен быць маладым, энергічным, разумным, але самае галоўнае — ён павінен быць прыхільнікам так званага «рускага свету». Да нядаўняга часу Пуцін адпавядаў усім гэтым патрабаванням. Але пасля нерашучых дзеянняў у дачыненні да Паўднёвага Усходу Украіны яго рэйтынг растае на вачах», — піша кіеўскія «Экономические Известия». Выданне нават прагназуе, што Гіркіна (Стралкова) хутка заб'юць людзі Пуціна.

Нейкая нярвознасць адносна ўчынкаў і рыторыкі Гіркіна тым не менш назіраецца. Падставу для гэтага даў сам Гіркін, калі прамым тэкстам не толькі абвінаваціў Пуціна ў здрадзе ДНР, аднак і спагназаваў невясёлы лёс для самога прэзідэнта РФ. «Для Пуціна разгром паўднёва-ўсходу аб'ектыўна смяротна небяспечны — і як для лідара Расіі, і проста як для чалавека — ён азначае беззваротны пачатак шляху Мілошавіча», — сказаў міністр абароны ДНР у адным з каментараў.

Блізкія да Крамля СМІ апаратыўна пачалі тлумачыць расіянам, што ж адбываецца.

> **«Гіркінафілы» ўсё часцей патрабуюць, каб палкоўнік Гіркін выступіў палітычным апанентам палкоўніка Пуціна на наступных выбарах прэзідэнта**

Зразумела, усе тлумачаць рукой Дзяржджэпа ЗША, а на самай справе: «Пуцін і Стралкоў — гэта не канкурэнты, а саюзнікі. Стралкоў ваяваў у Славянску не па загаду Пуціна, а паводле сваіх уласных перакананняў. Пуцін не абяцаў ваенную дапамогу Стралкову, аднак усяляк дапамагаў усім чым мог. І Стралкоў зусім не ў крыўдзе на Пуціна. Папулярнасць Стралкова параўнацца з папулярнасцю Пуціна ніяк не можа (...) Не пойдзе Стралкоў супраць Пуціна. Стралкоў — чалавек высакародны і разумны. Ён не будзе скакаць пад дудку Дзяржджэпа. Рэвалюцыя ў Расіі выгадная ў першую чаргу Дзяржджэпу».

Праехаўся па аматарах Стралкова і Лявонцьеў — рупар крамлёўскага піяру. У сваёй праграме «Однако» ён заявіў, што лозунг — Стралкоў супраць Пуціна, вядзе да расколу дзяржавы. «Стралкоў павінен у самы бліжэйшы час спыніць нікому не патрэбныя і бессэнсоўныя разборкі з дэмакратычным Кіевам і рушыць калоны да Масквы. Куды хутка і прыедзе на белым танку, арыштуе (а лепш адразу расстраляе) Пуціна і высакародна перадасць уладу сапраўдным рускім патрыётам, пасля чаго можа ехаць куды заўгодна, хоць на Украіну, хоць яшчэ ў якое Буркіна-Фасо, а сапраўдныя рускія патрыёты пачнуць, памаліўшыся і параіўшыся ў ласкава прадастаўленым ім пасольствам ЗША памяшканні, будаваць сапраўдную патрыятычную Расію: так, яна будзе крыху меншай, чым цяпер (навошта карміць Каўказ, дый за Уралам рускіх зямель няма) — затое сапраўднай, патрыятычнай», — пужае Лявонцьеў аўдыторыю.

На самай справе, наўрад ці ў Гіркіна ёсць маштабныя палітычныя і прэзідэнцкія амбіцыі. Па-першае, ён не толькі крытыкаваў Пуціна. Аднак і быў аўтарам шэрагу панегірыкаў на ягоны адрас. Па-другое, відавочна, што Гіркін прыбыў на Данбас не дыверсантам-«заробітчаніном», а паводле інструкцый расійскіх цэнтраў. Таму слаба верыцца, што ён пачне весці сваю гульню, нават адчуваючы, што Масква адмаўляецца ад плана Рускай вясны.

Дарэчы, у гісторыі Расіі быў ужо такі вайсковец, які, маючы вялізарную піяр-раскрутку, падавалася, мог дыктаваць сваю волю Крамлю. Гутарка пра генерала Лебедзя, які адбіў Прыднястроўе і заключыў мір з Масхадавым. Аднак у выніку яго кар'ера палітыка закончылася пшыкам. Іншая справа, што культ Гіркіна сведчыць: расійскі электарат патрабуе іншага лідара. Пуцін усім надакучыў, а сыходзіць ён не жадае.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Па розных ацэнках, у беларускіх рэпрэсіўных структурах працуе ад 100 000 да 130 000 грамадзян гэтай краіны, г.зн. 1,5% насельніцтва працаўладкавана для таго, каб назіраць за іншымі грамадзянамі. Іншы аспект, наколькі гэтыя структуры самастойныя і наколькі яны самі могуць прадстаўляць небяспеку для стабільнасці рэжыму? Гістарычныя прыклады паказваюць, што калі грамадства пасіўнае, гэтыя структуры могуць стварыць патэнцыял для перавароту.

**«Delfi» (Літва)**

Галоўнае дзяржаўнае свята — Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь, які супаў з 70-годдзем вызвалення сталіцы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, прайшоў з удзелам расійскай ваеннай тэхнікі. На фоне канфлікту на ўсходзе Украіны, развіццю якога ў немалой ступені спрыяе Расія, дэманстрацыя 3 ліпеня ў Мінску яе ракетнага комплексу «Іскандэр» і зенітнага ракетнага комплексу С-400 «Трыумф», а таксама браняваных шматмэтавых аўтамабіляў «Тыгр» надалі агульнаму расійска-беларускаму параду злавесны сэнс. Але прэзідэнт Беларусі вымушаны пазначаць сваю лаяльнасць Крамлю, каб атрымаць пэўныя эканамічныя прэферэнцыі. Увесь набор сімвалічных дзеянняў паказвае на тое, што геапалітычны маятнік зноў хіснуўся ў бок Масквы.

**«Deusche Welle» (Германія)**

Эканоміка-палітычныя саюзнікі РФ — Беларусь і Казахстан — не падтрымалі прапанову Расіі па імпарту тавараў з Украіны. Расія мае права абараніць свой рынак, уводзячы аднабаковыя пошліны ў дачыненні да ўкраінскіх паставак. Што, па наяўных дадзеных, можа быць зроблена з верасня бягучага года. Але, калі рэзка павялічыцца таварны паток з Беларусі і Казахстана ў Расію, гэта, як лічаць многія спецыялісты, напэўна будзе звязана з рээкспартам тавараў з Украіны праз дзве саюзныя краіны. І тады прыйдзецца ўводзіць пошліны (або іншыя абмежаванні) на прадукцыю, якая паступае ў РФ з беларускай і казахстанскай тэрыторыі? А што ж тады застанецца ад агульнай эканамічнай прасторы РФ, Беларусі і Казахстана?

**«Столетие» (Расія)**

Самае страшнае для Крамля — гэта тое, што на вачах разбураецца міф аб яго здольнасці цісніць на Беларусь і Казахстан — адзіныя дзяржавы, што ўваходзяць у пуцінскі Мытны саюз. Дайшло да таго, што яны выступаюць супраць уступлення Арменіі, паколькі непакояцца, што ў выпадку членства Арменіі парушыцца баланс сіл у гэтым саюзе. Лукашэнка цяпер здзяйсняе чарговыя мудрагелістыя манеўры, спрабуючы скарыстацца сітуацыяй вакол Украіны з тым, каб выгандляваць сабе чарговыя прэферэнцыі. Разумеюць, што армянскае пытанне можа таксама стаць пэўнай разменнай картай у таргах за гэтыя прэферэнцыі, ён можа скарыстацца і ім.

**«Vesti» (Азербайджан)**

Аляксандр Лукашэнка пераходзіў на беларускую мову і раней, але заўсёды ў няўпэўненай для сябе сітуацыі. А зараз сітуацыя вельмі нявызначаная ў сувязі з падзеямі ва Украіне, адначасова з Расіяй — вось і трэба нейкі баланс шукаць. З аднаго боку, запрашае расійскія войскі ўдзельнічаць у парадзе, з другога — паказвае, што мы ўсё ж — не рускія. Такія вось палітычныя арэлі.

**«RFI» (Францыя)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. Жудасная таямніца незалежнасці

4 ліпеня ЗША адзначылі Дзень незалежнасці, які намагаўся сапсаваць гісторык Геральд Хорнэ. Напярэдадні ён заявіў, што галоўным матывам для жыхароў брытанскіх калоній у Паўночнай Амерыцы патрабаваць незалежнасці ад Лондану было зусім не пытанне высокіх падаткаў або права на сваю рэлігію, як напісана ва ўсіх падручніках. На самай справе, каланістаў пужалі дэбаты ў англійскіх урадавых колах наконт неабходнасці адмены рабства. Брытанцы на той час вялі ў Новым свеце вайну з Іспаніяй і меркавалі, што адмена рабства можа падарваць усю эканоміку ў Фларыдзе, якая належала іспанцам і мела агульныя межы з брытанскімі калоніямі. Калі верыць гісторыку, чуткі пра магчымую рэформу выклікалі шок у амерыканскіх падданых брытанскай кароны. Гэта значыла крызіс для шматлікіх плантацый. Мусілі пацярпець і партовыя гарады, дзе камерсанты ахвотна займаліся гандлем рабамі, прыбытак з якога складаў 1700 працэнтаў. Па словах Хорнэ, афраамерыканцы былі на баку брытанцаў у войнах, і менавіта яны, а не брытанскія жаўнеры, як лічыцца, падпалілі Белы дом падчас брытанска-амерыканскай вайны. Каб зусім перапужаць публіку, Хорнэ сказаў, што Барак Абама, перад тым, як стаць прэзідэнтам, паабяцаў элітам ніколі не распавядаць сакрэт амерыканскай незалежнасці.

**Паводле нямецкай прэсы**

### Украіна. Сталіца Крыму будзе пад Херсонам

«Урад Украіны плануе аб'яднаць Крым і Херсонскую вобласць і зрабіць горад Генічэск адміністрацыйным цэнтрам крымскага рэгіёну ў замежжы, — заявіў экс-кіраўнік Меджліса крымскататарскага народа Мустафа Джамілеў. Генічэск — горад у Херсонскай вобласці з насельніцтвам у 26 тысяч чалавек, найбольш блізкі райцэнтр да Крыму. «Мы далучым Херсонскую вобласць да Крыму і ў Генічэску усталюем адміністрацыю ўкраінскай рэспублікі Крым, якая будзе займацца ўсімі пытаннямі, звязанымі з правамі нашых суграмадзян у Крыме да іх вызвалення», — сказаў Джамілеў. Генічэск не так даўно стаў месцам збораў кіраўніцтва Меджліса, дзейнасць якога ў Крыме абмежаваная. Джамілеў таксама дадаў, што пасля вяртання Крыму ў склад Украіны Генічэск, хутчэй за ўсё, будзе часткай Крымскай вобласці ў памяць аб сваёй ролі ў гісторыі барацьбы ўкраінцаў за вяртанне паўвостраву.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### Румынія. Наперадзе развал краіны?

Як вядома, Румынія традыцыйна патрабуе ўключэння ў свой склад тэрыторыі цяперашняй Рэспублікі Малдовы, якая да вайны была пад кантролем Бухарэста. Аднак магчыма, што, патрабуючы інкарпарацыі адной Малдовы, Румынія можа страціць іншую Малдову. Гутарка пра гістарычны рэгіён Малдова, што на поўначы краіны са сталіцай у горадзе Ясы. Менавіта Ясы доўгі час былі цэнтрам Малдаўскага княства, якое разам з Валахіяй стала базай для стварэння румынскай дзяржавы. На днях экс-прэм'ер Румыніі Міхай-Рэзван Унгурану заявіў, што трацiну краіны складаюць малдаване. Па яго словах, у краіне ідзе дыскрымінацыя малдаван, ахвярай чаго стала іх бацькаўшчына, дзе назіраецца калапс гаспадаркі і масавая іміграцыя. Праўда, Унгурану не заклікаў да аўтаноміі Малдовы. На яго думку, малдаване павінны павярнуцца у сябе і адрадзіць радзіму. А мясцовыя правыя палітыкі ўжо заявілі, што па сутнасці словы Унгурану маюць сепаратысцкі змест і накіраваныя на развал Румыніі.

**Паводле румынскай прэсы**

### Таджыкістан. Кожнай школе — тандыр!



Кожная вучэбная ўстанова Таджыкістана павінна мець тандыр, каб школьніцы навучыліся пячы ляпёшкі. «Мэта — навучанне дзяўчат школьнага ўзросту асновам сямейнага жыцця, прадухіленне распаду маладых сем'яў, — кажа адзін з чыноўнікаў. — Сем'і распадаюцца ўсё часцей, і гэта выклікае трывогу ўсяго грамадства. Аналіз паказвае, што адной з галоўных прычын распаду маладых сем'яў з'яўляецца негатоўнасць дзяўчат да сямейнага жыцця. Маладыя нявесткі не валодаюць элементарнымі навыкамі хатняй гаспадаркі: ні гузік прышыць, ні ляпёшку спячы, ні ежу прыгатаваць не могуць». На гэтым улады прыпыняцца не збіраюцца і думаюць вучыць шыць дываны. Назіральнікі скептычна глядзяць на веру чыноўнікаў у ляпёшкі, справядліва адзначаючы, што прычына сямейных трагедый — працоўная міграцыя таджыкаў у Расію.

**Паводле таджыкскай прэсы**

# Футбол і палітыка

Алег НОВІКАЎ

**У выніку працы знаўцаў футбольнай гісторыі нарэшце складзеная зборная самых палітызаваных футбалістаў мінулага.**

**Такім чынам, вось яе склад.**




### Брамнік

Месца ў варотах зойме Фолькер Іпіг (Volker Ippig) — галкіпер нямецкага клубу «Санкт-Паулі» (Гамбург) у 1986–1992 гадах. Клуб «Санкт-Паулі» вядомы сваёй тарсідай, якая складаецца з панкаў аднайменнага партовага раёну, дзе, дарэчы, знаходзіцца славуты Рыпербан — мясцовая вуліца чырвоных ліхтароў.

Іпіг у перапынках паміж матчамі здолеў паўдзельнічаць у захопах дамоў і бойках з паліцыяй, папрацаваць валанцёрам у Нікарагуа, а пасля ўвогуле адмовіўся ад заробку футбаліста, зарабляючы працай у парту Гамбурга. Траўма прымусіла яго пакінуць футбол у 30 гадоў.

### Левы абаронца

Алегер Прэсас у маладосці лічыўся будучыняй іспанскага футболу. Ва ўзросце 14 год яго ўжо прынялі ў прафесійны клуб, дзе ён адразу пачаў забіваць галы. На пачатку грамадзянскай вайны ў Іспаніі Алегер гуляў у шэрагах славутай «Барселоны». Пасля запісаўся добраахвотнікам на фронт і загінуў у 1939 годзе, абараняючы горад ад франкістаў.

### Правы абаронца

На гэтае месца знаўцы раяць выставіць француза Ліліяна Цюрама (Lillian Thuram). Бліскучая футбольная кар'ера не перашкодзіла яму быць удзельнікам шматлікіх палітычных акцый. Ён нелегальна правозіў у Францыю эмігрантаў. Пазней адкрыта салютаваў вулічным антыпаліцэйскім акцыям арабскай моладзі і сварыўся ў прэсе з Нікаля Сарказі, які на той момант быў дырэктарам МУС. Лічыцца, што шмат у чым дзякуючы гульні Цюрама Францыя ўзяла Кубак свету ў 1998 годзе, за што яму ўручылі Ордэн ганаровага легіёну.

### Цэнтральны абаронца

Мустафа Зітуні (Mustapha Zitouni) з Алжыру перад чэмпіянатам свету 1958 года быў зоркай французскай зборнай, якой здрадзіў з-за вайны за незалежнасць у родным Алжыры. Далучыўся да паўстання, і нават стварыў зборную партыі «Фронт нацыянальнага вызвалення Алжыру».

### Вольны паўабаронца

Аргенцінец Хаўер Занэці (Javier Zanetti), падпісаўшы кантракт са славутым клубам «Інтэр» (Мілан), стаў адным з галоўных спонсараў паўстання індзейцаў-сапатыстаў у Мексіцы. Ягоная актыўнасць у сферы салідарнасці з індзейцамі настолькі ўразіла іншых футбалістаў клубу, што яны пагадзіліся правесці матч «Інтэру» са зборнай руху сапатыстаў, усе грошы з якога пайшлі на дапамогу індзейцам.

### Цэнтральны паўабаронца

Бразілец Сакратэс — сапраўдная легенда як у футболе, так і ў палітыцы. У зеніце кар'еры ў 1984 годзе, будучы капітанам нацыянальнай зборнай, ён пакінуў бразільскі футбол на знак пратэсту супраць таго, што выбары ў краіне не адпавядалі міжнародным стандартам. «Палітычная перамога значна важнейшая, чым перамога ў спорце», — сказаў ён тады. З Бразіліі Сакратэс перабраўся ў Італію, у тым ліку, каб навучыцца чытаць творы Грамшы на мове арыгіналу. Да апошняга дня кар'еры дэманстратыўна піў алкаголь і паліў цыгарэты, падрываючы, па яго словах, прынцыпы прафесійнага спорту.

### Паўабаронца

Дыега Марадона і Фідэль Кастра — блізкія сябры. Акрамя таго, Марадона праславіўся тым, што падчас візіту амерыканскага гаранта Джорджа Буша ў Аргенціну надзеў майку з надпісам «Стоп, Буш!». «Ненавіджу ўсё, што звязана з ЗША», — неяк сказаў футбаліст.

### Нападаючы

Хрысціяна Лукарэлі (Christiano Lucarelli). Хрысціяна ўсё жыццё гуляў за клуб «Ліворна», які быў заснаваны сацыялістамі і дасюль захаваў імідж чырвонага клубу. Пажыццёвая вернасць клубным фарбам сама за сябе кажа пра палітычныя сімпатыі гульца. Ён — сябра Кампартыі і заўсёды насіў пад футбольнай майкай другую майку з выявай Чэ Гевары, каб дэманстраваць яго выяву трыбунам пасля ўзяцця варотаў. Лукарэлі неяк казаў, што перамагаць у складзе «Ліворна» заўсёды было двойчы прыемна, паколькі амаль усе суддзі ў італьянскай лізе ненавідзяць камуністаў і заўсёды падсуджвалі працiўнікам каманды Лукарэлі.

### Нападаючы

Рамарыя (Romario) даўно не гуляе за бразільскую зборную, яго імя цяпер на старонках прэсы. Усё таму, што ён — адзін з лідараў руху супраць правядзення цяперашняга чэмпіянату ў Бразіліі, які, на яго думку, абрабаваў бразільскі бюджэт. У Рамарыа, які, дарэчы, прадстаўляе ў парламенце Партыю сацыялістаў, асабістыя рахункі з кіраўніцтвам FIFA. Экс-футбаліст увесь час сцвярджаў, што ў адміністрацыі FIFA сядзяць карупцыянеры. Яго папулярнасць, падаецца, значна ўзрасце пасля разгромнай паразы зборнай Бразіліі ў ад Германіі ў паўфінале Кубка–2014.

### Нападаючы

Джордж Веа (George Weah) — адна з самых вялікіх зорак афрыканскага і сусветнага футболу. Пасля заканчэння кар'еры ён вырашыў стаць прэзідэнтам роднай Ліберыі. Асноўнымі пунктамі праграмы Веа былі забяспечыць усіх суайчыннікаў электрычнасцю і вадой, годнай для піцця. Выбары Джордж прайграў.

### Нападаючы

Мацiяс Сіндэлар (Matthias Sindelar), аўстрыйскі футбаліст, быў удзельнікам, як лічылася тады, апошняга матчу зборнай Аўстрыі. Пасля таго, як у выніку аншлюсу краіну ўключылі ў склад Германіі, нацысцкія бонзы вырашылі правесці апошні сімвалічны матч аўстрыйскай каманды са зборнай Германіі. Загадзя футбалістам далі інструкцыю — гуляць толькі на нічыйны вынік. Аднак Мацiяс меў іншыя ўстаноўкі. Ён выйшаў на поле ў кашулі правакацыйнага для гітлераўцаў чырвонага колеру, хаця ўся аўстрыйская каманда гуляла тады ў чорна-белых майках. І забіў два галы немцам, што забяспечыла Аўстрыі перамогу.

Вось такая атрымалася сімвалічная зборная. Спіс канчатковы. Некаторыя футбольныя гісторыкі прапануюць дапоўніць склад каманды нарвежцам Асбьёнам Хальворсэнам (Asbjørn Halvorsen) — былым футбалістам нямецкага клубу Гамбург, які ў 1933 годзе падчас аднаго з матчаў адзіны на полі адмовіўся вітаць прысутных на матчы лідараў нацыстаў. Нейкім чынам яму ўдалося збегчы на радзіму, дзе ён стаў дырэктарам мясцовай футбольнай федэрацыі. Хутка нацысты акупавалі Нарвегію, што, аднак, не прымусіла Федэрацыю прыпыніць каляндар гульняў. Напярэдадні фіналу кубку Хальворсэн заявіў, што адменіць матч, калі на стадыёне будзе фашысцкая сімволіка. Такога ўчынку акупацыйныя ўлады не прабачылі і адправілі дырэктара Федэрацыі ў канцлагер, дзе Асбьён ледзь выжыў. Пасля вайны Хальворсэн да 1955 года ўзначальваў нарвежскую футбольную федэрацыю.

# Геапалітычныя фантазіі

Алег НОВІКАЎ

**Фіктыўнасць межаў паміж краінамі на Блізкім Усходзе робіць мясцовыя канфлікты абсалютна непрадказальнымі. Палітолагі ахвотна фантазіруюць пра тое, як у будучыні будзе выглядаць рэгіён.**

Нядаўна ўвесь свет прыгадаў сотую гадавіну фатальнага стрэлу ў Сараева ў чэрвені 1914 года, у выніку якога чалавецтва пагрузілася ў Першую сусветную вайну. Найбольш арыгінальна ўзгадалі пра Першую сусветную, напэўна, ісламісты з Іраку. Яны з дапамогай бульдозера разбурылі памежны знак паміж Іракам і Сірыяй, абвясцілі аб стварэнні Халіфата Ірака і Сірыі, і выклалі відэа ў сецiва.

Канцэпт «перформансу» заключаўся ў тым, што быў сімвалічна пахаваны адзін з прадуктаў той самай вайны — сістэма межаў паміж існуючымі дзяржавамі на Блізкім Усходзе. Дакладней, гэта сістэма называецца лінія Сайкс–Піко паводле прозвішчаў яе аўтараў — брытанскага вайскоўца Марка Сайкса і яго французскага калегі Жоржа Піко.

У маі 1916 года англічанін і француз размежавалі пасляваенныя сферы ўплыву Лондану і Парыжу ў рэгіёне. Непасрэдна былі намаляваныя прыблізныя кардоны брытанскіх і французскіх падмандатных тэрыторый, у рамках якіх пазней паўсталі такія дзяржавы, як Ірак, Сірыя, Ліван, Іарданія. Таксама былі намаляваны контуры Палесціны, якая, як вядома, у 1948 годзе падзялілася, адпаведна рашэнню ААН, на ізраільскую і арабскую часткі. Пры гэтым Антанта праігнаравала свой абяцанак мясцовым саюзнікам — арабскім шэйхам, пра стварэнне адзінага каралеўства для арабаў.

І вось цяпер памежная сістэма, якая дзяліла арабскія дзяржавы Бліжняга Усходу і забяспечвала рэгіянальную стабільнасць, знішчаная. Па сутнасці, усе мясцовыя межы былі дзіравымі і фармальнымі, аднак людзі іх паважалі.

Тое, што зрабілі ісламісты Іраку, — не проста жартачкі. Узгаданы вышэй Халіфат карыстаецца дастаткова моцнай падтрымкай суніцкага насельніцтва Іраку, якое незадаволенае палітыкай ураду ў Багдадзе, што, у сваю чаргу, абапіраецца на шыіцкую камуну. Ёсць версія, што за Халіфат змагаюцца былыя генералы Садама Хусейна.

З улікам слабасці ўраду ў Багдадзе, на Захадзе не выключаюць, што Блізкі Усход, якім мы яго ведалі раней, больш існаваць не будзе. У выніку цяперашняй вайны ў Сірыі і ў Іраку паўстануць новыя дзяржаўныя адзінкі. Магчыма, канфлікт захопіць Турцыю і Ліван. Так ці інакш, прыйдзецца вызначацца накont падтрымкі аднаго з бакоў лідарам Саудаўскай Аравіі і Ірану.

Абсалютны хаос, які назіраецца на поўначы Іраку, і супярэчлівасць інфармацыі выпісалі палітолагам індульгенцыю на самыя смелыя пражэкты. У прэсе можна наткнуцца на неверагодныя сцэнары развіцця сітуацыі.

Як мінімум, адзіным верагодным уяўляецца стварэнне асобных дзяржаў на аснове суб'ектаў іракскай федэрацыі, якая, як вядома, складаецца з трох этнічных частак — курдаў, іракцаў-сунітаў і іракцаў-шыітаў. Найбольш далёка ў працэсе дзяржаўнага будаўніцтва зайшлі курды. Якія даўно маюць сваю адміністрацыю са сталіцай у горадзе Эрбіл і асобныя вайсковыя часткі. Фуад Хусейн (Fuad Hussein), лідар рэгіянальнага ўраду, ужо заявіў, што застаецца верным прынцыпам іракскага федэралізму, аднак, па яго словах, статус аўтаноміі павінен быць перагледжаны, паколькі вяртання да былой сітуацыі ўжо не будзе.

З'яўленне незалежнага Курдыстану не абяцае нічога добрага для Турцыі, дзе жыве 55 працэнтаў усіх курдаў на планеце. Няма сумневаў, што курдская праблематыка стане яшчэ больш актуальнай для Анкары.

Некаторыя дапускаюць, што сірыйскі лідар Башар Асад можа адрадзіць праект стварэння дзяржавы алавітаў — секты ў ісламе, да сяброў якой належыць дынастыя Асада. Быццам, патронам такога праекту можа выступіць Расія, якая зацікаўленая ў захаванні сваіх баз на сірыйскім беразе Міжземнага мора, дзе якраз і жывуць алавіты.

Ёсць і альтэрнатыўнае меркаванне. Кажуць пра магчымы рэнесанс ідэй панарабізму — дактрыны будаўніцтва адзінай арабскай дзяржавы. Яе могуць паспрабаваць фарсіраваць той жа Дамаск і Багдад, паколькі мясцовыя лідары вельмі пасябравалі апошнім часам на глебе нянавісці да радыкальных ісламістаў. Слабым месцам ідэі адзінай арабскай дзяржавы з'яўляецца вопыт Насэра. Як вядома, у часы Насэра Егіпет і Сірыя пагадзіліся на стварэнне адзінай арабскай дзяржавы, аднак у выніку нічога з гэтай фармацыі не атрымалася.

Іншыя кажуць, што адміністрацыя Багдаду, дзе шмат шыітаў, будзе рабіць стаўку на дапамогу аднаверцаў з Ірану. Кажуць, што шэраг вайсковых іранскіх фармаванняў ужо высунуліся ў бок Багдаду. У такім выпадку можа быць абвешчана шыіцкая іракская дзяржава.

На думку некаторых палітолагаў, ісламісты могуць гальванізаваць фундаменталісцкі рух не толькі ў рэгіёне, аднак і ва ўсім свеце. Гэтаму спрыяе таксама постмадэрнісцкі прысмак канцэпцыі ідэі Халіфату ў XXI стагоддзі. У гэтай перспектыве не зразумелая будучыня палесцінскага пытання. Адны кажуць, што пра яго забудуць з-за вайны ў Іраку. Другія — што «Хамас» і іншыя мясцовыя экстрэмісты, наадварот, атрымаюць маральны допінг. Калі арабы больш не прызнаюць старых межаў, усе дамовы з Ізраілем губляюць сэнс.

У прынцыпе, усе пагаджаюцца, што зона турбулентнасці больш вялікая за Блізкі Усход. Патэнцыйна канфлікт можа ахапіць і Егіпет. Там таксама назіраецца характэрная для арабскіх грамадстваў праблема — слабы гарадскі сярэдні клас, не здольны стварыць палітычную прастору самастойна. На першых этапах незалежнасці праблема вырашалася за кошт арміі, аднак з пачаткам эканамічнага крызісу, вайскоўцы могуць кантраляваць сітуацыю толькі за кошт рэпрэсій, што робіць сацыяльную структуру нестабільнай.

Таксама цікава, што ніводны актор канфлікту ў Іраку не змагаецца за нацыянальную дзяржаву ў былых межах. У лепшым выпадку, гутарка ідзе пра абарону інтарэсаў племені, рэгіёну або аднаверцаў. Што атрымаецца на выхадзе, прагназаваць нельга, у тым ліку таму, што Захад, страціўшы аўтарытэт пасля сумных вынікаў іракскай інтэрвенцыі, ужо наўрад ці здольны навязаць мір, як гэта было ў далёкія часы Першай сусветнай вайны.







## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Леанід Кучма



Былы прэзідэнт Украіны 10 ліпеня адсвяткаваў юбілей: роўна 20 гадоў таму ён перамог Леаніда Краўчука ў другім туры выбараў і стаў украінскім гарантам. Гэта стала нагодай, каб узгадаць часы Кучмы і паспрабаваць зразумець яго ролю ў гісторыі. Як і трэба было чакаць, адзінства поглядаў няма. Усе прызнаюць, што Кучма застаецца нейкім феноменам для ўкраінскай палітыкі, для якой характэрна высокая дынаміка змены палітычных сімпатый. Леанід Данілавіч здолеў пратрымацца два тэрміны. Пры гэтым на першыя выбары ён ішоў з іміджам Лукашэнкі — прыхільнікам інтэграцыі з Расіяй, а на другія — як нацыяналіст. Прыхільнікі Кучмы кажуць, што кучмаўская Украіна магла падпісаць Асацыяцыю з Еўропай без праблем з Расіяй, паколькі Пуцін паважаў уладу ў Кіеве. Негатыўныя бакі кадэнцый Кучмы — забойства Гангадзэ, «прыхватызацыя» і стварэнне алігархічнай сістэмы, якая па сутнасці давяла краіну да цяперашняга крызісу. Не трэба забываць і версію пра тое, што Майдан прыдумаў Кучма. Быццам, ён не жадаў прыходу Януковіча да ўлады і тайна спансаваў Майдан 2004 года, каб вынікі прэзідэнцкіх выбараў адмянілі. Палітык разлічваў на тое, што Ючшанка і Януковіч дыскрэдытуюць сябе за гэты час, і грамадства, якое стамілася ад канфрантацыі, прапануе яму пайсці на трэцюю кадэнцыю. Аднак у апошні момант частка людзей Кучмы перайшла ў лагер аранжавых.

### Міхай Орац



Мэрам венгерскай камуны Эрпатак (Erpatak), сябрам праварадыкальнай партыі «Jobbik» зацікавіліся дэпутаты Еўрапарламенту пасля таго, як у еўрапейскай прэсе з'явіліся некаторыя падрабязнасці рэжыму, што дзейнічае ў гэтай мясцовасці. Так, Орац рэгулярна ў форме венгерскага гусара XIX стагоддзя (так ён любіць апранацца пры выкананні працоўных абавязкаў) асабіста правярае, наколькі чыстыя прыбіральні ў жыхароў. Таксама не вітаецца наяўнасць у кватэрах алкаголю. Еўрадэпутатам, аднак, больш за ўсё не падабаецца тое, што нацыяналіст кантралюе падзел сацыяльнай дапамогі для цыганскай грамады. Ад капрызу Ораца залежыць, хто з цыганоў атрымае прыкладна 70 еўра (памер месячнай сацыяльнай дапамогі), а хто не атрымае. Падобную практыку ў адносінах да цыган нацыяналісты мяркуюць распаўсюдзіць на ўсю краіну, што выклікае шок у Брусэлі. Таксама ўсе ў жаху ад практыкі барацьбы з апазіцыяй. Для ціску на сваіх апанентаў Орац звозіць з усёй Венгрыі сяброў «Jobbik», якія водзяць вакол дома апазіцыянера факельныя маршы. Праўда, не зразумела, як Еўрасаюз можа паўплываць на сітуацыю ў венгерскай правінцыі. У Эрпатаку Ораца стабільна абіраюць мэрам з 2005 года, а за «Jobbik» на апошніх парламенцкіх выбарах тут галасавала каля 30 працэнтаў, хаця кожны другі з 1800 дарослых жыхароў камуны не мае працы.

### Вацлаў Клаус



Былы прэзідэнт Чэхіі прапанаваў свае паслугі па падзелу Украіны на прарасійскую і празаходнюю дзяржавы. Па словах палітыка, у аснове падзела мае ляжаць ягоны асабісты вопыт падзелу Чэхаславакіі, які меў месца ў 1993 годзе. Калі верыць Клаусу, на той час адносіны чэхаў і славакаў таксама маглі перайсці ў фармат вайсковага супрацьстаяння, аднак ён здолеў хутка знайсці кампраміс. У прынцыпе, нічога сенсацыйнага тут няма — былы чэшскі гарант і раней схіляўся да падтрымкі маскоўскай пазіцыі па Украіне, называючы ўкраінскую дзяржаву штучнай фармацыяй. Аднак самае смешнае пачалося пасля таго, як інтэрв'ю пабачылі ў Славакіі. Нацыяналістычныя колы ў Браціславе заявілі, што «аксамітны развод» (так у свой час называлі развал Чэхаславакіі) быў несправядлівы. У прыватнасці, узнята пытанне прыналежнасці да Чэхіі Маравіі. Таксама ўзгадалі пытанне сцягу. Аказваецца, падчас кансультацый пра падзел Прага і Браціслава дамовіліся, што ніводная з дзяржаў не будзе выкарыстоўваць чэхаславацкі сцяг у якасці нацыянальнага. Чэхі, аднак, насуперак дамовам, пакінулі сцяг Чэхаславакіі сабе на падставе таго, што нічога лепшага не прыдумалі. Клаусу ўзгадалі і тое, што большасць чэхаў і славакаў выступала супраць плану падзелу краіны.

# Вяртанне палкавой рэліквіі



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**13 ліпеня 2014 года ў Млаве адбудзецца ўрачыстая перадача копіі сцяга 79-га пяхотнага палку Войска Польскага ў Музей Заўкшэнскай зямлі ў Млаве.**

## Ветэраны аднаўляюць рэліквію

Рэпліка штандару была зроблена ў 1980 годзе ў Вялікабрытаніі па ініцыятыве падпалкоўніка Войска Польскага Юзафа Маеўскага і былых жаўнераў 79-га Слонімскага палка імя Льва Сапегі. 10 жніўня таго ж года артэфакт быў асвечаны ксяндзом Антоніем Капусцінскім у лонданскім касцёле Караля Хрыста ў Бэлхэм.

У тагачаснай польскай эмігранцкай прэсе адзначалася, што сцяг быў амаль дакладнай копіяй палкавой святыні, страчанай падчас абароны Варшавы ў верасні 1939 года. Амаль, таму што на сцягу былі нанесены надпісы: «Млава-Варшава-Коцк 1939 год», а таксама "АК (Армія Краёва) 1939–1945 гг.».

На штандары былі выявы гербаў Слоніма і Навагрудчыны, а таксама Святога Архангела Міхаіла і Маці Божай Вострабрамскай. Пасля ўрачыстай цырымоніі асвячэння артэфакт быў перададзены ў Польскі інстытут і музей імя генерала Уладзіслава Сікорскага ў Лондане, дзе ён і знаходзіўся да апошняга часу, пакуль не было прынята рашэнне аб вяртанні палкавой рэліквіі ў Польшчу.

## Слонімскія стралкі

Полк імя Льва Сапегі быў сфарміраваны на аснове Беластоцкага стралковага палка, які ўваходзіў у Літоўска-Беларускую дывізію, а пасля яе рэарганізацыі ў кастрычніку 1919 года ўліўся ў чацвёртую брыгаду Другой Літоўска-Беларускай дывізіі. Ужо пасля польска-бальшавіцкай вайны ў кастрычніку 1921 года гэтая вайсковая адзінка была перайменавана ў 79-ты полк і ўвайшла ў склад 20-й пяхотнай дывізіі. Месцам дыслакацыі пехацінцаў быў горад Слонім, а адзін з батальёнаў размяшчаўся ў Бярозе Картузскай.

У 1930 годзе гэтае падраздзяленне было залічана да III тыпу пяхотных палкоў, набліжаных да штатаў вайсковага часу. На выпадак вайны з Савецкім Саюзам жаўнераў са Слоніма рыхтавалі да баявых дзеянняў у Баранавіцкім умацаваным участку, які знаходзіўся на савецка-польскай мяжы. Сланімчане павінны былі заняць абарону ў шматлікіх ДАКах, размешчаных пад Баранавічамі, і стрымаць першы ўдар Чырвонай Арміі. Пазней на дапамогу «стралкам Льва Сапегі» павінны былі прыйсці рэзервы з Захаду II Рэчы Паспалітай.



Марцін Даміньяк (злева) падчас атрымання копіі сцяга, чэрвень 2014 года



Жаўнеры 79-га слонімскага палку імя Льва Сапегі, Слонім



Падчас спаборніцтваў, Слонім, 1929 г.




Падчас вайсковых спаборніцтваў, Слонім, 1929 г.

## Міжваенная дваццацігоддзе

Палкавы штандар слонімскі полк атрымаў у 1923 годзе. Яго стварэнне фінансавалася жыхарамі Навагрудскага ваяводства. 15 ліпеня 1923 года камандзір палка падпалкоўнік Мар'ян Туркоўскі атрымаў святыню з рук генерала Станіслава Шэптыцкага. Урачыстасць адбывалася ў Слоніме. Гэтая вайсковая адзінка, як і іншыя палкі 20-й «крапаснай» пяхотнай дывізіі (80-ты і 78-мы) фарміравалася па тэрытарыяльнаму прынцыпу, таму ў яе шэрагах было шмат беларусаў, а таксама жыхароў Заходняй Беларусі іншых нацыянальнасцяў.

Як адзначае даследчык Сяргей Чыгрын, полк размяшчаўся ў былых казармах Шуйскага пяхотнага палка рускай імператарскай арміі. Нягледзячы на тое, што падчас Першай Сусветнай вайны Слонім значна пацярпеў, будынкі вайсковага гарадка ацалелі. У міжваенны час у палку «стралкоў Льва Сапегі» былі створаны саюз падафіцэраў рэзерва і саюз вайсковых сямей. Значную ролю ў жыцці горада адыгрываў узгаданы вышэй камандзір 79-га палка Мар'ян Туркоўкі, якому было прысвоена званне ганаровага грамадзяніна Слоніма. Як падкрэсліве той жа Чыгрын, слонімскія стралкі часта праводзілі розныя спартыўныя мерапрыемствы, сярод якіх, безумоўна, дамінавалі лыжныя спаборніцтвы. У верасні 1929 года ў Слонім прыязджаў прэзідэнт II Рэчы Паспалітай Ігнацій Масціцкі. На шматлікіх тагачасных здымках бачныя афіцэры і жаўнеры 79-га палка Войска Польскага, якія суправаджалі першую асобу міжваенай Польшчы.

## Абаронцы Млавы

Перад самым пачаткам Другой сусветнай вайны 20-я «крапасная» пяхотная дывізія была перакінутая з Заходняй Беларусі на мяжу з Усходняй Прусіяй пад горад Млава і ўвайшла ў склад арміі «Модлін». На новых абарончых пазіцыях жаўнеры з Навагрудчыны былі вымушаны будаваць ДАКі і іншыя ўмацаванні, а з 1 верасня 1939 года беларусы мужна змагаліся супраць нацыстаў.

Палешукі некалькі разоў пераходзілі ў штыкавыя атакі і адбівалі наступленне супраціўніка, пры гэтым пехацінцам са Слоніма прыйшлося супрацьстаяць нямецкім танкам. У ноч з 3 на 4 верасня з'явілася небяспека акружэння частак 20-й дывізіі, і было прынята рашэнне адступіць у бок Варшавы.

Пазней часткі 79-га палка слуцкіх стралкоў удзельнічалі ў абароне Варшавы. Перад самай капітуляцыяй сталіцы некалькі афіцэраў Войска Польскага са Слоніма, знаходзячыся ў варшаўскім раёне Жэрань, вырашылі схаваць дзве металічныя скрыні, у адной з якіх была дакументацыя 79-га палку, а ў другой — сцяг.

Падчас Варшаўскага паўстання у 1944 годзе будынкі, у якіх былі схаваныя скрыні, былі знішчаны. Пазней на гэтай тэрыторыі знаходзіліся часткі савецкай арміі. Афіцэры 79-га палку, якія хавалі палкавыя каштоўнасці, прайшлі нямецкі палон, але выжылі, і пасля вайны, вярнуўшыся ў Варшаву, спрабавалі знайсці схаваныя скрыні. Але гэтыя пошукі прыцягнулі ўвагу польскага аналага НКУС — УБ. Вайскоўцаў арыштавалі, а пра схаваны сцяг вырашылі забыць. Для камуністычных улад рэліквія «крэсовага» палку была непажаданай знаходкай. Пасля 1945 года Слонім знаходзіўся ў складзе СССР.

## Вяртанне сцягоў

І вось зусім не чакана, у 1990 годзе, падчас будаўнічых работ на тым месцы, дзе некалі знаходзіўся часовы штаб 79-га палку, бульдозер выцягнуў з зямлі металічныя скрыні… На жаль, ад сцягу сланімчан амаль нічога не засталося. Гэтыя парэшткі былі перададзеныя ў Музей Войска Польскага.

Ішлі гады. У польскім горадзе Млава з'явіліся энтузіясты, якія займаліся зборам інфармацыі па гісторыі палку са Слоніма. Менавіта Таварыства вайскова-гістарычнай рэканструкцыі «79-ты полк пяхоты імя Льва Сапегі» і стала ініцыятарам вяртання копіі палкавой святыні з Лондана ў Польшчу.

Як адзначыў у размове са мной кіраўнік гэтай арганізацыі Марцін Даміньяк, была праведзена вялікая праца дзеля таго, каб гэты цікавы гістарычны артэфакт вярнуўся на Радзіму. «Копія палкавога сцяга, якую мы атрымалі з Вялікабрытаніі, займе свае месца ў Музеі Заўкшэнскай зямлі ў Млаве. Гэта ўнікальны музейны экспанат не толькі для нашага горада, але і ўсёй краіны», — адзначыў Марцін.

Не чужы гэты сцяг і для нас, беларусаў. У верасні 1939 года жаўнеры з Заходняй Беларусі мужна змагаліся ў шыхтах Войска Польскага пад Млавай, і значная іх колькасць загінула ў тых баях. Палякі памятаюць гераізм жаўнераў іншых нацыянальнасцяў, якія біліся з нацыстамі ў Вераснёўскай кампаніі. Прыйшоў час і на Беларусі аднавіць памяць пра гэтых герояў Другой сусветнай вайны. Можа, калісьці копія сцягу 79-га палку стралкоў імя Льва Сапегі вернецца дадому, у горад на берагу Шчары.

Лявон ЮРЭВІЧ



# Мікола Казак: мастак дадатнай і адмоўнай прастораў

**Беларуская паваенная эміграцыя ў Італію была большаю, як, да прыкладу, у Галандыю, але значна меншаю ў параўнанні з Даніяй, Бельгіяй ці Швецыяй. У гэтай краіне нібыта і існавала некалькі арганізацыяў — Беларускае студэнцкае згуртаванне ў Рыме, Беларускае каталіцкае акадэмічнае аб'яднанне «Рунь», рэдакцыя часопіса «Зніч», але ва ўсіх была аднолькавая адрэса — Via della Transportina, 18.**

Цэнтрам беларускага арганізаванага жыцця ў Рыме быў гаспадар памяшкання — рэдактар «Зніча», пісьменнік, перакладчык, заснавальнік і дырэктар беларускай секцыі Радыё Ватыкану пралат Пётра Татарыновіч (1896–1978).

Зрэшты, эміграцыя з Беларусі ў Італію ніколі не была масаваю; ехалі сюды Скарынавым шляхам адзінкі: вучыцца. І ў паваенныя гады сітуацыя бадай што не змянілася (калі, натуральна, не лічыць беларусаў у Другім польскім корпусе) — невялікая купка інтэлігентаў, можа з тузін, мо крыху болей.

Газета «Бацькаўшчына» пісала (№16 (60). 5 кастрычніка 1949 г.): *«Сяньня беларусаў у Італіі няшмат. Засталіся толькі студэнты, і тыя, якіх не хацела прыняць IPO пад сваю апеку. Адносіны італьянцаў да беларусаў, наагул, былі і ёсьць добрыя. Аб гэтым сьведчаць факты, калі італьянцы прымалі пад сваю апеку тых, якіх адкінула IPO і якім урады адмовілі сваю помач. Беларускія студэнты, якія студыююць на італьянскіх унівэрсытэтах у Рыме, хаця жывуць у вельмі цяжкіх матар'яльных умовах, аднак ужо шырака ведамыя ня толькі ў Рыме, але і ўва ўсёй Італіі.*

*Аб іх творчасьці ўжо многа раз пісалі італьянскія газэты і журналы. Гэтак, ведамы беларус — прафэсар малярства сп. Казак сваімі мадэрнымі, рэвалюцыйнымі малюнкамі перавысіў усіх італьянскіх мастакоў. Ягоныя працы цяпер у Італіі цэняцца вельмі высока. Другі мастак, опэрны сьпявак сп. Конюх, хаця яшчэ і ня выступаў як актор, бо яшчэ канчае студыі, але ўжо шырака ведамы. Ягоны бас будзіць вялікія надзеі сярод спэцыялістаў.*

*Што тычыцца беларускага арганізацыйнага жыцьця ў Італіі, то яно з прычыны дрэнных матар'яльных умоваў на сяньня ня мае магчымасьцяў на шырэйшае разьвіцьцё».*

Пятро Конюх (1910–1994), як і незадоўга перад ім, 1930-х гадах, іншы знакаміты спявак, Міхась Забэйда-Суміцкі, менавіта ў Італіі вырабіўся на сусветна прызнанага прафесіянала. Тут ён запісаўся ў Акадэмію мастацтваў, дзе ў 1951 годзе атрымаў дыплом спевака, у 1956 годзе — музычнага крытыка і ганаровае званне «маэстра акадэміі».

Імя іншага новага рымляніна, згаданага ў тым даўнім артыкуле газеты «Бацькаўшчына», — мастака Міколы Казака — мала што скажа сёння беларусу, хоць вядомасць яго была хай і не ўзроўню Хаіма Суціна або Марка Шагала, але непараўнальна большаю за, прыкладам, Міхася Саўку ці Пётры Мірановіча.

Народжаны 4 верасня 1917 года ў вёсцы Лушча Лунінецкага раёна, у 1935 годзе ён атрымаў стыпендыю на навучанне ў школе мастацтваў у Варшаве, па заканчэнні якой вучыўся ў іншай школе — вядомага польскага мастака Тадэвуша Кулісевіча (1899–1988).

Паехаўшы адведаць сваякоў у Ленінградзе, Казак заспеў там пачатак вайны, але здолеў усё ж дабрацца да Пінску, дзе па-ранейшаму жылі яго сваякі. Тут ён стаўся сведкам страты сястры і яе сям'і.

У 1942 годзе Мікола Казак пераехаў у Баранавічы, дзе пачаў зноў маляваць і дзе адбыліся першыя выставы ў 1942–1943 гадах. 1944 год ён правучыўся ў Вене, а ў 1945-м — выехаў на студыі ў Мастацкую акадэмію ў Рыме.

Рым падзяліў Казакова жыццё на дзве часткі. У вечным горадзе малады мастак, вядомы сваімі працамі ў рэчышчы традыцыйнага рэалістычнага мастацтва XIX стагоддзя, упершыню сутыкнуўся з мастацтвам абстрактным. Яго прыкмеціў і заапекаваўся Энрыка Прампаліні — цэнтральная постаць Другога Італьянскага Адраджэння. Мастацтва Казака, аўтара напісанага ў Рыме маніфесту «Physical Art — Action of Positive and Negative», параўноўвалі з творамі расійскіх канструктывістаў і Казіміра Малевіча.

Вітаўт Тумаш змясціў у часопісе «Конадні» тэкст мастака «Фізыкальнае мастацтва» па-беларуску:

*«Мастацкае дазнаньне й глыбейшае тэарэтычнае дасьледваньне мастацкага твору наагул ды неразьвязаных яшчэ праблемаў антынатуралістычнага (абстрактнага) мастацтва ў асаблівасьці — прывялі мяне — у 1946–47 гг. — да ўводу ў творства «адмоўнае прасторы», як беспасярэдняга кампанэнту, ды аўтаматычна — да станаўкога і апраўданага адхіленьня кансэрватыўнае канцэпцыі прастакутнага вобразу малярства.*

*Каб зрэалізаваць гэты прынцып, я выкарыстаў дадатную прастору (цьвярдую масу) і адмоўную прастору (паветраную прастору) — два спачатным фізыкальных элемэнты — як адзіныя й беспасярэднія ўстаноўнікі твору, роля якіх — узаемна абумаўляць існаваньне адзін аднаго ды пластычную ўспрыймальнасьць цэлае рэальнасьці. У першым творы, што я сканструяваў, я ўжыў дзьве прасторы, дадатную і адмоўную, назваўшы яго «канструкцыяй з дадатнай і адмоўнай прасторы»; у другім творы я ўжыў толькі адмоўную прастору, назваўшы яго «канструкцыяй з адмоўнай прасторы». Двупрасторавая кампазыцыя азначае канструкцыю аднаго элемэнту ў другім, тымчасам як аднапрасторавая (адмоўная) кампазыцыя азначае канструкцыю аднаго фактару, толькі пры дапамозе дадатнае — цьвярдое лініі. Я назваў прадукцыю, заснаваную на гэтых элемэнтах, «фізыкальным мастацтвам»; ейны цьвярды кампанэнт я назваў «дадатнай прасторай», а паветраны кампанэнт — «адмоўнай прасторай»* (Конадні. №5–6. 1958. С. 142).

У 1952 годзе Мікола Казак пераехаў у Нью-Ёрк. З гэтай нагоды апякун мастака Вітаўт Тумаш змясціў у «Запісах БІНіМ» (раздзел «Хроніка») наступную інфармацыю: *«У пошуках за магчымасьцямі мастацкай творчай працы пераехаў у Нью-Ёрк наш суродзіч Мікола Касак. Творчы мастацкі шлях Міколы Касака — гэта кансэнквэтная эвалюцыя ад традыцыйнага малярства да малярства безпрадметнага (non-objective painting), якое ставіць сабе за заданьне раскрываць «нутраную духовую гармонію» (Кандыньскі) наскрозь малярскімі спосабамі, бяз насьледваньня формаў навакольнага сьвету. За мінулых 30 гадоў ад свайго паўстаньня малярства гэта дабілася значных асягненьняў, працаю галоўна такіх майстроў, як Кандыньскі, Мондрыян, Малевіч, Клеэ, Баўэр.*

*Праяваю здабытага прызнаньня для гэтага новага мастацтва ёсьць факт, што ў нова збудаваным гмаху Аб'яднаных Народаў у Нью-Ёрку, у галоўнай салі паседжаньняў, нядаўна былі намаляваныя вялізарныя насьценныя абстрактныя малюнкі францускага маляра Лежэра»* (Запісы БІНіМ. №2. 1952. С. 123).

Выставы ў Амерыцы, Італіі, Францыі, Аргенціне і нават Савецкім Саюзе чаргаваліся з наведваннямі Беларускай хаткі ў Брукліне, лекцыямі па мастацтве, хоць у грамадскім жыцці быў не надта актыўным.

Не ў апошнюю чаргу спрычынілася да гэтага, напэўна, малая ўвага беларускае грамады да падобных мастацкіх твораў; яна аддавала перавагу рэалістычным працам Пётры Міравовіча, які быў завалены прыватнымі замовамі — як карцінаў з серыі «жыццё на бацькаўшчыне», так і напісання партрэтаў асобных дзеячаў (напрыклад, Наталлі Арсенневай, Уладзіміра Сядуры). Міранович не абмінаў выпадку пакпіць з абстрактнага мастацтва і самога Казака, які чакаў ад землякоў таго ж прызнання, што здабыў сярод небеларусаў. Ён сышоў, пачаўшы падаваць сябе як народжанага ў Расіі або нават як паляка, за што аднойчы быў ледзь не выкінуты з хаты абураным гэтым фактам Уладзімерам Русаком.

Казаку сапраўды было што паказаць: выдадзены ім «Physical art: action of positive and negative space» (Rome, 1947–1948, 1955), альбом «The art of Kasak. With a foreword by Robert Kramer, commentaries by Marcello Gallian and the artist's own manifesto on physical art» (New York: October House, 1968), кнігу аўтарства Bowlt, John E. «From action to dynamic silence: the art of Nikolai Kasak» (Salt Lake City (Utah), 1991).

З нагоды апошняга альбому ўплывовае выданне «The Russian Review» змясціла рэцэнзію Міраславы Мудрак, у якой пісалася літаральна наступнае: «Nikolai Kasak occupies a unique position within the art world today. He is a champion of the spirit that dictated the international geometric avant-garde of the first two decades of the twentieth century» (The Russian Review. Vol. 53. №3. P. 435—436).

Праз тры гады па выхадзе альбому, 30 верасня 1994 года, Мікола Казак памёр. Ягоныя творы час ад часу выстаўляліся на аўкцыёнах, былі яны і часткаю выставаў, пра якія паведамляла «New York Times».

Як пісалі крытыкі, філасофія Казака больш блізкая да агучанага Казімірам Малевічам супрэматызму, як да пазнейшых прынцыпаў канструктывізму. Але свае ідэі ён вынайшаў і сфармуляваў для сябе нашмат раней, як пабачыў творы майстроў гэтых плыняў. У трактаце «Фізыкальнае мастацтва» Мікола Казак напісаў так: *«Гэтым выказваньнем я не манюся зьняцэньваць годнасьцяў заснавальнікаў філязофіі «канструкцыі ў прасторы», але, кажучы словамі Габо, «як мастак, я маю права адкідаць вобразы сьвету, створаныя маймі папярэднікамі перада мною, ды шукаць новых вобразаў, сутычных зь іншымі аглядамі жыцьця й прыроды, іншымі рытмамі, адпаведнымі новым духовым і пачуцьцёвым працэсам жыцьця ў нас сяньня, ды выяўленьнем гэтых новых вобразаў я маю права прэтэндаваць на іх як на вобразы рэальнасьці»* (Конадні. №5–6. 1958. С. 143–144).



**Мікола Казак. Адам і Ева: адмоўная і дадатная прастора, 1960**

# Калыханкі для Янкі заспявалі ў Віцебску

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Калі раней беларускамоўныя сем'і ламалі галаву над тым, як жа «калыхаць» сваіх малых па-беларуску, то зараз усё стала крыху прасцей. Да рашэння праблемы выхавання беларускіх дзетак далучылася і Студэнцкае этнаграфічнае таварыства «Поўнач» з Віцебску. Яны заснавалі праект «Забаўлянкі для Янкі».**



Ганна Архіпенка з сынам Янкам

На працягу года СЭТ ладзіў у Віцебску сустрэчы-семінары для маладых бацькоў, майстар-класы па вырабу лялек, выцінанак, таксама арганізоўваліся выступы батлейкі. А 8 ліпеня гурт «Паўночная Сухадроўка», які ўваходзіць у склад СЭТа, прэзентаваў дыск «Калыханкі для Янкі».

«Як зараз памятаю: калышу я свайго Янку, — расказвае Ганна Архіпенка, адна з кардынатарак праекта, — а ў галаве круціцца толькі адна забаўлянка — «Ласачка», а больш нічога не ведаю. Не, насамрэч, у інтэрнэце шмат забаўлянак, але ў асноўным усе яны рускамоўныя. І тут падумалася, што ў нашым распараджэнні архівы СЭТа. Чаму б не стварыць сваю базу беларускіх калыханак ды забаўлянак? І вось так, адштурхоўваючыся ад архіваў і асабістых ведаў, мы развучылі калыханкі ды запісалі з імі дыск».

Сабраўшыся ў гістарычным комплексе «Дзвіна» ў Віцебску, атрымалі не толькі інфармацыю пра дыск, але і калыханкі ў жывую. Так, Святлана Чакушка праспявала калыханкі, што паходзяць з Палескага і Віцебскага рэгіёнаў. Аляксандр Субоцін выканаў «Баю-Баю-Баю...» пскоўскага паходжання. Самім фактам свайго выканання ён зруйнаваў стэрэатып, што калыханкі могуць спяваць толькі жанчыны.

Каб гледачы не засумавалі, арганізатары раздалі ўсім словы для сумеснага выканання калыханак.

На прэзентацыі дэманстраваліся не толькі калыханкі, але і забаўлянкі. Гулялі з дзеткамі ў пацягнушкі, а таксама ў «Ладушкі» — аказваецца, у іх таксама можна гуляць па-беларуску.

Другую частку мерапрыемства складалі рухомыя гульні і танцы. Традыцыйныя беларускія гульні «Явар» і «Каза» ў агульнае кола зацягнулі і маленькіх, і вялікіх. Гэтак жа як і народныя танцы.

Папулярнасць такога метаду выхавання дзетак сярод віцебчукоў пашыраецца. У сярэднім, колькасць наведвальнікаў мерапрыемстваў складае пятнаццаць сямей, а калі прэзентаваўся альбом гурта «ВУРАЙ», імпрэзу наведала больш за сто чалавек. Сярод тых, хто прыходзіць на такога кшталту вечарыны, сустрэчы, прэзентацыі ўсё часцей заўважны не толькі «свядомыя» бацькі, але і тыя, хто дагэтуль быў «не ў тэме» беларускасці.

У хуткім часе кампазіцыі «Калыханкі для Янкі» з дыска з'явяцца ў інтэрнэце, каб усе зацікаўленыя бацькі маглі іх пампаваць і не проста спяваць, але цяпер ужо і гушкаць па-беларуску.



Дзеткі разам з бацькамі развучваюць калыханку

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# Як марак прыплыў да беларускай мовы

Аляксандр СТРАХ

У недалёкім мінулым я — афіцэр Ваенна-марскога флоту СССР, мне давялося служыць у розных частках, у тым ліку на палігоне ядзерных выпрабаванняў на востраве Новая Зямля, што ў Паўночным Ледавітым акіяне.

Калі бываеш далёка і падоўгу ад роднага дома, дзесьці ў марах-акіянах, то роднае становіцца вельмі дарагім. І так хочацца раптам стаць чараўніком і хоць бы на пару імгненняў апынуцца на роднай зямлі, убачыць родную хату, сад, маму, пачуць яе голас... А потым ужо зноў можна вярнуцца назад, да свайго мора, на свой карабель.

Падчас урагану на моры разумееш, што Бог ёсць, і ў нейкі момант звяртаеш свой позірк да неба, просіш аб сустрэчы з роднымі хоць бы на адну хвілінку, а потым няхай збудзецца воля лёсу.

Аднойчы з Новай Зямлі мяне адправілі ў камандзіроўку ў Маскву. Тэрмін знаходжання ў Маскве — адзін, толькі адзін дзень. Ад Масквы да роднай хаты ў Беларусі больш за тысячу кіламетраў. Беларускі вакзал, вагон хуткага цягніка на Мінск. На наступны дзень я быў у роднай хаце. Мне ўдалося пабыць у ёй 4, толькі 4 гадзіны. Мае камандзіровачныя дакументы былі ў Мінску несапраўдныя, гэта значыць, што квіток на самалёт, Мінск — Архангельск я купляў за свой кошт. Але ў гэтым выпадку гэта не мела значэння. Душэўны стан, радасць сустрэчы вымераць грашыма было немагчыма. У аэрапорце Архангельска мой багаж, што называецца, «пашманалі», але па-боску, рэчы ўсё засталіся на месцы, узялі гарэлку, але толькі палову. На службу я вярнуўся своечасова.

За гады службы перада мною прайшло шмат хлопцаў у матроскай форме — расіян, украінцаў, армян, азербайджанцаў... Узгадваю матросаў з Башкірыі, з Удмуртыі, з Марыйскай Рэспублікі (цяпер Рэспубліка Мары-Эл) і шмат іншых.

У маёй памяці яны пакінулі светлы след. Але больш за ўсё запала ў душу, што ўсе яны між сабой размаўлялі на сваёй роднай мове, і толькі мы — беларусы, размаўлялі не на сваёй

Да нас, беларусаў, усе ставіліся з павагай і часта пыталіся, як па-беларуску называецца той ці іншы прадмет, прасілі прамовіць што-небудзь па-беларуску. І ніхто ніколі з нас не сказаў, што не ведае мовы, — сароме́юся, бо засмяюць, ніхто не сказаў, што яна нам непатрэбная. У далёкіх краях неяк больш абвострана ўспрымалася прыгажосць роднага слова — яго непаўторнасці, такой меладычнасці, якія больш не адчуеш нідзе.

Там я зразумеў як ніколі: словам мы малюем навакольны свет, раскрываем душу. Добрыя сэрцы напоўнены прыгожымі словамі, грубыя — адлюстроўваюць навакольны свет мацюкамі. Можа змяняцца надвор'е, можа мяняцца настрой, родныя ж словы — гэта як зямля, як неба, як позірк, як твар — альбо наша, альбо чужое.

І мяне мучылі пытанні. У нас, беларусаў, няма сваёй мовы? Альбо мы яе не ведаем? Ці мы забыліся яе? А калі так, то хто мы? А зямля, на якой жывуць нашы родныя, чыя яна?

За гады службы мне давялося пабываць у розных краях: і ў Расіі (Урал, Масква, Ленінград, Архангельск, востраў Новая Зямля, Арол, Растоў-на-Доне) і ў Еўропе, на Украіне, у Прыбалтыцы, на Каўказе. У маёй запісной кніжцы шмат адрасоў маіх добрых знаёмых — з Індыі, В'етнама, Бангладэш, Турцыі, Германіі, Польшчы, Грэцыі, Італіі, Ізраіля, Іспаніі, Алжыру, Албаніі, Балгарыі, Кубы, Бразіліі, ЗША, Эфіопіі, Нігерыі, Сербіі, Македоніі.

Мне заўсёды было вельмі цікава, пра што мараць, пра што думаюць мае знаёмыя з іншых краін? Аказваецца, пра тое ж, пра што і мы: успамінаюць сваіх родных і блізкіх, радуюцца іх поспехам, зычаць ім шчасця і здароўя, усхваляюць прыгажосць роднага краю, спяваюць родныя песні...

Маюць вялікае пачуццё гонару за сваю краіну. Ганарацца сваёй культурай, сваёй мовай. Напрыклад, пакістанец распавядаў мне, што іх алфавіт утрымлівае 52 літары і што іх гаворка вельмі багатая. Латыш тлумачыў, што словы, якія мы называем нецэнзурнымі, у іх мове таксама ёсць, але яны імі ніколі не карыстаюцца ў якасці абразы. Македонец мне перакануча тлумачыў, што нашы мовы маюць адну аснову, і ён добра разумеў беларускую.

І вось тэрмін службы скончыўся, я выйшаў на пенсію і вярнуўся ў родны Магілёў, у той горад, з якога калісьці безвусым юнаком сыходзіў служыць на ваенны флот.

Магілёў — горад як горад, і людзі як людзі, але нешта тут не так. Калі ідзеш па горадзе, першае, што асабліва кідаецца ў вочы, гэта вялікая колькасць рэкламных шчытоў, і на ўсіх іх рэкламныя надпісы, чамусьці на мове суседзяў. Неяк у мяне самі расейцы спыталіся: «Гэта даніна павагі добрым суседзям, ці пакланенне перад больш разумнымі, а можа гэта адлюстраванне залежнасці?»

Ідзеш па Магілёве, па вуліцы Ленінскай, паварочваеш на Катоўскага, а там вуліца Фрунзе, Чапаева, Крыленкі, Гагарына, Астроўскага, Грышына, Крупскай... І думаеш, а як прайсці на вуліцу Купалы, Коласа, а ці ёсць у Магілёве вуліца Міцкевіча, Багдановіча?

Калі ведаеш, што бібліятэкі ў Магілёве носяць імёны Маркса, Пушкіна, Леніна, калі зусім нядаўна ў Быхаве праходзіла свята «Дзень беларускага пісьменства», а на ім выступалі старшыня Магілёўскага аблвыканкаму П. Руднік і міністр культуры Беларусі Б. Святлоў па-руску, то становіцца дабра зразумелымі глыбіні духоўнай пустэчы, да самага ўскрайку якой мы наблізіліся.

Калі мы бачым мора, горы, джунглі — яны нас могуць здзівіць, зацікавіць. Калі мы пасля доўгага адсутнасці вяртаемся на родную зямлю, яна нас радуе, напаўняе станоўчай энергіяй. Роднае — гэта слова, якое складаецца з адчуванняў, самых лепшых, далікатных, дарагіх. І першае, што робім мы міжвольна, незаўважна нават для сябе, глыбока ўдыхаем паветра. І сонца, і месяц, і зоркі свецяць з неба ўсім людзям, але дома іх святло пранікае глыбей у душу.

Каб нас паважалі там, за мяжой, мы павінны клапаціцца пра свой край, берагчы яго. Калі мы не навучым нашай мове нашых дзяцей, то што берагчы запавядаем мы ім?

Ці ўспомняць нас нашы нашчадкі праз 30–50 гадоў? Абавязкова, але роўна настолькі, наколькі мы пакінулі ім у спадчыну дабрыні, цяпла, любові да роднага слова, роднага краю.

Калі бывае холадна — мы апранаемся цёпла, калі бывае сумна — мы шукаем родную душу, калі надыходзіць туга — мы ўспамінаем родны дом, цягнемся да яго ў думках і пачуццях. І вяртаемся.

Вяртанне ў родную хату — гэта парыў душы.

Новы час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

ЗАРЭГІСТРАВАНА Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

ВЫДАВЕЦ Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 920.

Падпісана да друку 11.07.2014. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.